


# Рэгіянальная газета

22 лютага 2013 года
№ 8 (930)
Тэлетыдзень
http://rh.by
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

**Пісьменніца Наталля Батракова раіць пісаць па-беларуску**

2-я старонка



**Збіваў маці-інваліда бляшанкай ад тушонкі**

4-я старонка

- **Дзяржкантроль выявіў парушэнні на "Дыліс Касметык".** /3-я старонка.
- **Як гэта – спаць на працоўным месцы?** /3-я старонка.
- **У "Смаргоні" з'явяцца новыя футбалісты.** /22-я старонка.
- **У новай зале кінатэатра – арт-хаўс.** /23-я старонка.

## навіны рэгіёна

### Пейзажы Аляксандра Грышкевіча

**ВІЛЕЙКА.** У пятніцу, 22 лютага, у выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча запрацуе персанальная выстава мастака **Аляксандра Грышкевіча**. Адкрыццё яе з удзелам аўтара работ прызначанае на 17 гадзін. "На выставе прадстаўлена больш за сорак карцін, – паведаміла старшы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Вольга Коласава**. – Гэта – пейзажы, у тым ліку і з нашага рэгіёна". Аляксандр Грышкевіч нарадзіўся ў Маладзечне ў 1961 годзе. Цяпер жыве ў Мінску. З 1996 года – член Саюза мастакоў.

### ДАІ ўвяло план "Надвор'е"

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. МЯДЗЕЛ. ВАЛОЖЫН.** У сувязі з вялікімі снегападамі ў Мінскай вобласці супрацоўнікі ДАІ кругласутачна сочаць за дарожным пакрыццём. Яны кантралююць своечасовасць выканання дарожнымі і камунальнымі службамі работ па ўборцы снегу і ліквідацыі галалёду, пры неабходнасці гатовыя суправаджаць снегаўборачную тэхніку. Падрыхтаваная тэхніка на тыя выпадкі, калі раптам машына з'ехала ў кювет. Людзям, якія па тэхнічных прычынах спыняюцца на дарозе, аказваецца дапамога.

### У Беларусі адключаць правадное радыёвяшчанне

**БЕЛАРУСЬ.** Гэта плануюць зрабіць да канца 2014 года, паведамляе БелТА. Правадное радыёвяшчанне пачнуць адключаць з Гродзенскай і Мінскай абласцей. Уладальнікам радыёкропак хутчэй за ўсё дадуць УКХ-прыёмнікі, з дапамогай якіх можна слухаць Першы нацыянальны канал Беларускага радыё. Адключыць правадное радыёвяшчанне вырашылі таму, што такая тэхналогія перадачы інфармацыі папросту састарэла. Акрамя таго, прыбытковасць гэтай паслугі для нацыянальнага аператара электрасувязі пакідае жадаць лепшага.

**Аддзел інфармацыі.**



# 21 лютага – Дзень роднай мовы




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**21 лютага адзначаюць Дзень роднай мовы. Маладзечанец Стасік пачаў святочную раніцу з чытання беларускіх казак.** **Працяг тэмы чытайце на 20-й старонцы.**

МОЛАДЗЬ

# Вучаць моладзь быць прадпрымальнымі

**МЯДЗЕЛ. У вёсцы Камарова на Мядзельшчыне ажыццяўляюць праект "Школа маладога прадпрымальніка".**

Накіраваны ён на развіццё прадпрымальніцкай актыўнасці ў старшакласнікаў рэгёна і здзяйсняецца пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага Саюза і фонду "Еўразія". Гутарым з кіраўніком праекта дырэктарам Цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" **Алай Вайцяховіч.**

**– Чым было выклікана ажыццяўленне праекта?**

– Будучыня рэгіёна наўпрост залежыць ад прадпрымальніцкай актыўнасці маладых людзей, якія хутка скончаць школу і будуць атрымліваць прафесію. Але сацыялагічныя апытанні, якія праводзяцца сярод выпускнікоў вядучых эканамічных ВНУ краіны, паказалі, што толькі 20% з іх бачаць сваю будучыню ва ўласнай справе.

Таму вельмі важна звярнуць асаблівую ўвагу старшакласнікаў на магчымасць далейшай паспяховай самарэалізацыі на малой радзіме. Неабходна прадэманстраваць ім, што ў нашым рэгіёне існуюць унікальныя магчымасці для рэалізацыі розных праектаў у сферы прадпрымальніцтва.

Менавіта праект "Школа маладога прадпрымальніка" накіраваны на фарміраванне ведаў у маладых людзей у галіне прадпрымальніцкай дзейнасці, эканамічнага менеджменту, гаспадарчага права. Асаблівая ўвага надаецца магчымасці рэалізацыі бізнес-праектаў у сельскіх рэгіёнах рэспублікі і, асабліва, у Нарачанскім краі.

**– Хто стаў удзельнікамі праекта?**

– У ім прымаюць удзел 15 школьнікаў. Гэта выпускнікі і вучні выпускных класаў сярэдняй школы №2 і гімназіі-інтэрната Мядзела, Нарацкай СШ №2, Свірскай СШ, сярэдняй школы №7 Смаргоні, гімназіі №1 Астраўца, Падольскі д/с-СШ Астравецкага раёна.

**– Якія заняткі праводзіліся ў "Школе маладога прадпрымальніка"?**

– Разлічаная яна на тры этапы. На першым, у жніўні мінулага года, адбыўся "круглы стол" па пытаннях моладзевага прадпрымальніцтва.

Потым для ўдзельнікаў арганізавалі агульнаадукацыйныя курсы ў форме вочнага семінара. Вучні атрымалі неабходныя дадатковыя веды па эканоміцы, юрыдычным праве, бухгалтарскім уліку, псіхалогіі, экалагічным менеджменце.

Для выкладання запрашаліся прафесійныя спецыялісты. Удзельнікі курсаў пабывалі на прадпрыемствах малога бізнесу ў рэгіёне – у нашым цэнтры, пякарні ў Камарове, аграэкасядзібе "Падкасцёлак" у Астравецкім раёне.

На экскурсіі пазнаёміліся з гістарычнай і культурнай спадчынай краю. Падчас работы школы вызначылі тэксама тэмы інвестыцыйных праектаў для кожнага альбо групы ўдзельнікаў.

Другі этап – напісанне праектаў. Гэта дамашняе заданне, разлічанае на некалькі месяцаў. Удзельнікі распрацавалі інвестыцыйныя бізнес-планы па развіцці нашага рэгіёна, пры гэтым праводзіліся анлайн-кансультацыі са спецыялістамі. У нядзелю, 17 лютага, адбылася прэзентацыя бізнес-праектаў. Пераможцы конкурсу атрымалі прызы і дыпломы, усім удзельнікам уручылі сертыфікаты.

На трэцім этапе правядзём выніковы "круглы стол" для прадстаўнікоў сістэмы адукацыі Мядзельскага раёна, мясцовай улады і прадстаўнікоў грамадскіх ініцыятыў.

**– На якія тэмы дзеці пісалі праекты?**

– Тэмы розныя. Напрыклад, такія: "Прадпрыемства па ўстаноўцы сонечных батарэй і калектараў", "Арганізацыя гасцініцы для жывёл у Смаргоні", "Картынгклуб на Нарачы", "Арганізацыя турызму для інвалідаў у Нарачанскім краі", "Адкрыццё піцэрыі ў Свіры".

**– Што будзе вынікам праекта?**

– Самы галоўны вынік – гэта тое, што ў сферы малога бізнесу пройдуць навучанне 15 вучняў школ, будзе падрыхтавана больш за дзясятак інавацыйных бізнес-праектаў для Нарачанскага рэгіёна.

**– Якую выснову зрабілі для сябе падчас працы з моладдзю?**

– Падалося, што ў школе вучні атрымліваюць недастаткова ведаў па эканоміцы і прадпрымальніцтве. А гэта негатыўна ўплывае на ўсвядомлены выбар будучай прафесіі.

Пры гэтым адзначу, што вучні вельмі цікавяцца прадпрымальніцтвам і актыўна ўдзельнічаюць у такіх мерапрыемствах, як наша "Школа". Лічу, што было б добра, каб курс "Асновы прадпрымальніцкай дзейнасці для моладзі" быў уключаны ў школьную праграму.

У далейшым Цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" будзе аказваць падтрымку ў рэалізацыі праектаў, арганізацыі стажыровак для маладых людзей, якія будуць удзельнічаць у развіцці прадпрымальніцтва ў нашым рэгіёне.



Фота забяспечана Алай ВАЙЦЯХОВІЧ.

Падчас прэзентацыі праектаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЛІТАРАТУРНЫЯ СУСТРЭЧЫ

# Пісьменніца Наталля Батракова раіць пісаць па-беларуску

**МАЛАДЗЕЧНА. Сустрэча з ёй адбылася 15 лютага ў бібліятэцы імя Максіма Багдановіча.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Наталля Батракова.

Кнігі спадарыні Наталлі рускамоўныя. Тлумачыць свой выбар тым, што пачала пісаць даволі позна і ёй складана ствараць на роднай мове так, каб словы гучалі.

Але калі да яе звярнулася дзяўчына і папрасіла пачытаць яе эсэ і маленькія расказы, адзінае, што параіла спадарыня Наталля, – перайсці на беларускую мову.

– Так хутчэй надрукуюць, – патлумачыла Наталля Батракова. – З малой формай у нашых выданнях вельмі складана прабіцца.

Затое пісьменніца піша пра пачуцці ў родных мясцінах. У кнізе "Імгненне бясконцасці" згадваюцца назвы беларускіх гарадоў і вуліц. Калі яна спрабавала дамовіцца аб друкаванні яе кнігі ў расійскім выданні, ёй адказалі: "Добра, але вам трэба прыбраць Мінск".

– У маёй кнізе прысутнічаюць месцы, якія знаходзяцца побач, – кажа спадарыня Наталля. – Мяне гэта грэе. Таму, калі мне прапанавалі прыбраць назвы родных мясцін, у мяне ўнутры ўсё паўстала і я не пагадзілася. А цяпер, калі кнігу пачалі перавыдаваць розныя выдавецтвы, мне паступіла прапанова ад буйнога расійскага выдавецтва надрукаваць у іх кнігі, якія раней ужо былі выдадзеныя.

**Настасся РОЎДА,**
**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ЗАГС

# У Дзень закаханых павіншавалі бацькоў 1000-га немаўляці

**МАЛАДЗЕЧНА. Шчаслівцамі сталі 29-гадовы Сяргей і 30-гадовая Паліна Барэйкі. Сваё другое дзіця яны назвалі Канстанцінам.**

Яго старэйшую сястру завуць Ксенія.

– Я ляжала восенню ў радзільні, мяне выклікала загадчыца аддзялення і спытала: "Вы ў курсе, што вы 1000-я?" – распавядае маці Паліна. – Я разгубілася і нават не ведала, што і сказаць. Тэлефаную мужу і пытаюся, ці ў курсе ён, што мы 1000-я. І чую у адказ: "Ну, канешне!"

Бацькі рады, што віншуюць іх менавіта ў Дзень закаханых. Начальніца аддзела ЗАГС Маладзечанскага раёна **Ніна Бажко** таксама надае гэтаму асаблівае значэнне:

– Абралі 14 лютага, бо Дзень закаханых – гэта ўсё ж такі свята. Дзіця ўжо якраз падрасло, бо мы ж не праводзім рэгістрацыю адразу, як нараджаецца немаўлятка. Канстанцін нарадзіўся 6 лістапада.

Традыцыя віншаваць 1000-е немаўля існуе з 2005 года. Да гэтага цягам дзесяці гадоў яго ў Маладзечне папросту не было. Дарэчы, летась нарадзілася больш за 1600 дзяцей. І гэта амаль на 150 больш, чым у 2011 годзе. Атрымліваецца, што ў мінулым годзе нараджальнасць у Маладзечне перавысіла смяротнасць.

Сярод народжаных у лідарах хлопцы – 850 хлопчыкаў супраць 798 дзяўчынак. Яшчэ ёсць 27 сямей, якім у падарунак ад лёсу дасталася адразу двое дзяцей. Ёсць нават адна тройня.

**Настасся РОЎДА.**

# Будслаўскія вучні сталі прызёрамі рэспубліканскіх спаборніцтваў

**МЯДЗЕЛ. Ад сярэдзіны студзеня праходзілі розныя этапы спаборніцтваў па зімовым мнагаборстве "Здароўе" сярод вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі, размешчаных у сельскай мясцовасці.**

Удала ў іх выступілі прадстаўнікі Мядзельскага раёна: яны дабраліся да рэспубліканскіх спаборніцтваў і вярнуліся адтуль прызёрамі.

Напачатку каманда Мядзельшчыны перамагла ў занальных спаборніцтвах, потым заняла трэцяе месца ў абласных. У складзе каманды было 14 вучняў Занарацкай і Будслаўскай сярэдніх школ. Па выніках абласнога этапа ў склад каманды Міншчыны для ўдзелу ў рэспубліканскіх спаборніцтвах увайшлі трое будслаўчан: **Аляксандр** і **Кацярына Хацяновічы, Анастасія Рудкоўская**. Усяго ў камандзе Мінскай вобласці было 14 чалавек – па адным хлопцу і дзяўчыне, пачынаючы з пятага па адзінаццаты клас.

Рэспубліканскія спаборніцтвы прайшлі ў пачатку месяца ў Віцебску. Уключалі яны стральбу з пнеўматычнай вінтоўкі, скачкі ў даўжыню з месца, лыжныя гонкі, падцягванне для хлопцаў, а для дзяўчат – згінанне і разгінанне рук ва ўпоры лежачы.

Па выніках спаборніцтваў каманда Міншчыны заняла трэцяе месца. Ёсць у гэтым поспеху і ўнёсак юных будслаўчан: яны старанна трэніраваліся, з кожным этапам паляпшалі свае вынікі.

– Як для цябе скалälіся рэспубліканскія спаборніцтвы? – запытаў у Кацярыны Хацяновіч.

– У прынцыпе, нармальна, толькі лыжня не вельмі добрая была – цяжкая, – адказала Кацярына. – Уражанні і ад спаборніцтваў, і ад знаёмства з Віцебскам засталіся прыемныя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АНОНС

# Астраўчане праводзяць зіму

**АСТРАВЕЦ. У суботу, 23 лютага, на стадыёне пройдзе святочнае мерапрыемства "Провады зімы".**

А яшчэ там адбудзецца флэшмоб "Развітанне з зімой".

Як паведаміла дырэктар раённага метадычнага цэнтра **Анастасія Клімашэўская**, у мерапрыемстве прымуць удзел Снягурка, Дзед Мароз, Певень, Драконычык, Леў і іншыя казачныя персанажы.

У гэты ж дзень у межах мерапрыемства пройдзе святочны кірмаш.

Рыхтуецца і канцэртная праграма. Будуць выступаць салісты і ансамблі.

Пачатак святочнага мерапрыемства а 12 гадзіне.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Дзяржкантроль выявіў парушэнні на "Дыліс Касметык"

**МАЛАДЗЕЧНА. У той час, калі прадпрыемства брала крэдыты ў банках, перад ім раслі значныя даўгі староннiх арганізацый.**

Гэтыя недахопы, а таксама прамыя парушэнні заканадаўства выявіла нядаўняя праверка Маладзечанскім міжрайкамітэтам дзяржкантролю аднаго з буйнейшых вытворцаў парфумы ў Беларусі.

Праверка прадпрыемства ўстанавіла шэраг фактараў, якія адмоўна адбіваюцца на яго фінансавым становішчы.

ЗАТ "Дыліс Касметык", пашыраючы сваю вытворчасць, накіроўвала значныя сродкі ў інвестыцыі – пашырэнне ўласнай вытворчай базы.

Набыўшы ва ўласнасць незавершаныя будаўнічыя аб'екты пад будучыя склады, адміністрацыйныя і санітарна-бытавыя памяшканні, далейшыя будаўнічыя работы праводзіліся без праектна-каштарыснай дакументацыі, якая б прайшла абавязковую дзяржэкспертызу. А эксплуатацыя такіх памяшканняў на працягу 2012 года вялася без акту прыёмкі аб'екта ў эксплуатацыю і без заключэння дзяржорганаў аб надзейнасці і бяспецы аб'екта, яго адпаведнасці патрабаванням выбухова-пажарнай бяспекі, вытворчай санітарыі і інш.

Таварыства на працягу 2011–2012 гадоў перыядычна парушала нарматывы тэрмінаў паступлення валютнай выручкі – долараў ЗША. Пры ўстаноўленым заканадаўствам максімальным тэрміне паступлення доларавай выручкі за прададзеную прадукцыю ў 90 дзён у некаторых выпадках ён складаў ад 91 да 134 дзён. Гэта таксама не спрыяла фінансавай устойлівасці прадпрыемства.

На "Дыліс Касметык" значна расла дэбіторская запазычанасць староннiх арганізацый. Толькі са студзеня па кастрычнік мінулага года яна павялічылася на 2,5 мільярда рублёў. Пры гэтым раслі запасы гатовай прадукцыі – парфума і туалетная вада – на складах. Гэты рост склаў 7,9 мільярда рублёў.

Кантралёры знайшлі парушэнні ў бухгалтарскім уліку. У першую чаргу гэта тычыцца няправільнага ўліку арандаванай маёмасці, іншых абавязацельстваў, у тым ліку залогаў, якія павінны былі адлюстроўвацца і не адлюстроўваліся на забалансавых рахунках прадпрыемства. У выніку праверкі на гэтыя рахункі былі аднесены маёмасць і абавязацельствы на суму больш чым на 34 мільярды рублёў.

Як негатыўны паказчык праверка адзначыла павелічэнне фінансавых абавязацельстваў – крэдыторская запазычанасць, у тым ліку доўгатэрміновых банкаўскіх крэдытаў і займаў – на 2,4 мільярда рублёў.



На складзе ЗАТ "Дыліс Касметык" за год стварылася запасаў гатовай прадукцыі на 7,9 мільярда рублёў.

Фота bq-kartinki.ru.

У 2011–2012 гадах перавышаны дапушчальны каэфіцыент суадносін сярэдняй зарплаты кіраўніка і сярэдняй зарплаты па арганізацыі ў цэлым. Міжрайкамітэт выдаў ЗАТ "Дыліс Касметык" прадпісанне аб ухіленні парушэнняў памеру і ўмоў аплаты працы на прадпрыемстве і праінфармаваў аб гэтым райвыканкам.

Не было правільнага ўліку адходаў бою шкла – бою тары для парфумернай прадукцыі. Недахоп гэтых адходаў склаў 1 тону 251 кілаграм.

У выніку праверкі ад ЗАТ "Дыліс Касметык" і службовых асоб спагнаныя 82 мільёны рублёў, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя 14 работнікаў.

**Па матэрыялах Дзяржкантролю.**

**Даведка "РГ".** Сумесная беларуска-французская кампанія закрытае акцыянернае таварыства "Дыліс Касметык" (гандлёвая марка Dylis Parfum) з'яўляецца адным з буйнейшых вытворцаў парфумернай прадукцыі на тэрыторыі Беларусі. Кампанія заснаваная ў 1991 годзе. Знаходзіцца ў Маладзечне.

| Курсы валют НБ РБ | 14.02 | 21.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 650.00 | **8 580.00** |
| Еўра | 11 630.00 | **11 520.00** |
| Злоты | 2 793.48 | **2 768.28** |
| Літ | 3 371.07 | **3 334.43** |
| Расійскі рубель | 287.50 | **285.00** |
| Грыўня | 1 067.24 | **1 054.77** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8620/8660 | **8570/8640** |
| Еўра | 11580/11700 | **11400/11540** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 13.02 | 20.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **124950** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 43750 | **35050** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 50000 | **50000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 88000 | **88000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 18900 | **20800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 81000 | **81000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10700 | **10700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9950 | **9950** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10100 | **10100** |
| **Алей** | 16600 | **16600** |
| **Маянэз**, 200 г | 4700 | **4700** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7790 | **7790** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9200 | **9200** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3800 | **3800** |
| **Капуста**, 1 кг | 3800 | **3000** |
| **Морква**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **3000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18000 | **18000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15000 | **14500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 17000 | **18000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 24000 | **21000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 28000 | **36000** |
| **Перац**, 1 кг | 33000 | **34900** |
| **Вінаград**, 1 кг | 40000 | **37000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13600 | **13500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8000 | **9000** |
| **Грушы**, 1 кг | 19000 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **40000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 17000 | **15000** |
| **Сала**, 1 кг | 58000 | **58000** |
| **Бульба**, 1 кг | 2000 | **10000** (5л) |
| **Мёд**, 1 кг | 60000 | **60000** |

АБМЯРКУЕМ!

## Як гэта – спаць на працоўным месцы?

**МАЛАДЗЕЧНА. Сітуацыя ў адным з аўтобусаў.**

Пятніца. Апошні дзень працоўнага тыдня. Еду ў аўтобусе на працу. Адзінаццатая гадзіна раніцы. Аўтобус амаль пусты.

Кантралёр сядзіць хмурая, з амаль заплюшчанымі вачыма. Я падышла да яе, купіла білет і села насупраць.

На прыпынках людзей у аўтобус заходзіла вельмі мала. Толькі каля Дома быту зайшлі чалавекі тры ці чатыры. Яны таксама падышлі за білетамі да кандуктаркі самі, яна абілеціла іх і зноў заплюшчыла вочы. Выгляд у яе быў стомлены.

– Вам як пракурору трэба хадзіць па аўтобусе, а вы спіце? – сказала абураная пасажырка, якая сядзела адразу за ёй, але бачыла твар жанчыны, бо тая сядзела бокам.

Кандуктарка хутка расплюшчыла вочы і пачала абараняць сябе:

Паглядзела б я на вас, калі б вы ўсталі а трэцяй гадзіне ночы. Дзе б вы спалі і як?

А я ўжо не працую. А калі працавала, то не спала на працоўным месцы, – працягвала пасажырка.

Вы самі бачыце, што аўтобус амаль пусты. Я ж не прыйшла да вас дадому, не заняла ваша месца. Што вы да мяне прычапіліся? – пачынае апраўдвацца кандуктарка.

Тут у сварку ўступілі іншыя пасажыры, якія заступіліся за стомленую кандуктарку, якая ўсё паўтарала: "Я паднялася а трэцяй гадзіне ночы! Я працую без выхадных!"

Людзі пачалі супакойваць жанчыну і спачуваць ёй. А адна, маладая, на выхадзе з аўтобуса падбадзёрыла яе, расказаўшы гісторыю пра сваю маці, якая прадае білеты на чыгуначным вакзале.




Пры нашым шалёным рытме жыцця псіхолагі раяць знаходзіць любую хвілінку, каб узнавіць сілы.

Фота ef.ru

Кандуктарка пасля заўваг прайшлася па аўтобусе, спытала у пасажыраў: "Хто яшчэ не аплаціў праезд?", перасела на іншае месца, далей ад той абуранай жанчыны.

А што вы думаеце наконт гэтай сітуацыі? Выкажыцеся ў каментах на сайце rh.by.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ПРАКУРАТУРА, СУД



Фота goloskarpat.info.

Сын збіваў маці за тое, што яна забылася, куды паклала бутэльку гарэлкі.

# Збіваў маці-інваліда бляшанкай ад тушонкі

**ВІЛЕЙКА. Суд прыгаварыў 27-гадовага мужчыну да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі за збіццё маці-інваліда, якая схавала ад яго бутэльку гарэлкі.**

Усё адбылося днём 8 жніўня. Нецвярозы сын стаў патрабаваць у сваёй маці бутэльку гарэлкі, якую тая схавала. Аднак нецвярозая 54-гадовая жанчына з-за хваробы на шызафрэнію не змагла ўспомніць, куды яе паклала.

Тады сын разззлаваўся і ўдарыў маці кулаком у твар. Потым схапіў бляшанку з-пад тушонкі ды зноў ударыў па твары. Маці звалілася на ложак. Ён пачаў біць па твары нагамі, схапіў з тумбачкі кухонны нож ды пырнуў у бок.

У гэты час жанчына, якая была ў кватэры з раніцы і піла з імі, пачала крычаць і адштурхоўваць мужчыну. З-за шуму прачнуўся яшчэ адзін мужчына, які піў з імі. Ён убачыў на ложку маці свайго знаёмага, у якой быў увесь твар у крыві, і закрычаў на яе сына ды ўдарыў яго кулаком у плячо.

Толькі пасля гэтага той супакоіўся і пайшоў спаць.

Маці не жалілася, таму госці пачакалі, пакуль сын засне, і пайшлі дадому.

Раніцай да абвінавачанага прыйшлі іншыя знаёмыя: мужчына і жанчына. Апошняя, убачыўшы на ложку маці з акрываўленым тварам, прапанавала дапамагчы жанчыне памыцца. Калі яна стала яе пераапранаць, заўважыла на баку павязку, заклееную пластырам. Калі спыталася, адкуль яна, маці ціха адказала, што гэта яе сын парэзаў. Тады жанчына пачала крычаць на абвінавачанага і пытацца, чаму ён так зрабіў. У адказ яна пачула: "Дастала".

Да доктара жанчына пайшла сама. У міліцыю патэлефанаваў ужо хірург з бальніцы, да якога пацярпелая звярнулася з траўмамі.

На судзе мужчына цалкам прызнаў сваю віну.

Суд вырашыў, што вінаватага трэба прымусова лячыць ад хранічнага алкагалізму.

Яго прыгаварылі да чатырох гадоў і шасці месяцаў пазбаўлення волі з накіраваннем у папраўчую калонію ва ўмовах ўзмоцненага рэжыму.

Пацярпелую перадалі органам апекі і папячыцельства Вілейскага райвыканкама.

**Таццяна БОРЫС, суддзя Вілейскага раёна.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Не дапамагайце вас абакрасці!

**МАЛАДЗЕЧНА. Усё часцей здараюцца выпадкі крадзяжу рэчаў, грошай і дакументаў, мабільных тэлефонаў і іншых каштоўных рэчаў у пасажыраў цягнікоў.**

Часта самі пацярпелыя ствараюць спрыяльныя ўмовы для таго, каб іх абакралі.

Варта быць пільнымі і памятаць, што злачынцы часта ўмеюць выклікаць давер. Таму ніколі не гуляйце ў цягніках у азартныя гульні з незнаёмымі. Ні ў якім разе не піце з імі спіртное, не пакідайце рэчы пад нечым наглядам ці без нагляду, нават ненадоўга.

Калі пры вас сумкі, чамаданы і іншыя рэчы, стаўце іх пад сядзенне і на спецыяльна адведзеныя для багажу месцы, каб іх не было зручна скрасці.

Старайцеся не паказваць у касах, што пры вас шмат грошай. Лепш разлічвацца грашыма, якія загадзя адклалі. Дакументы, грошы, тэлефон трымайце пры сабе, пажадана ва ўнутраных кішэнях.

Калі падчас паездкі вы ўсё ж сталі ахвярай злачынства, адразу звяртайцеся па дапамогу да брыгады цягніка ці нарада суправаджэння.

Трымайцеся элементарных мер асцярожнасці – і гэта дазволіць вам пазбегнуць непрыемнасцяў і захаваць сваю маёмасць.

**Таццяна СУБАЧ, старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.**

## Жанчына загінула перад цягніком

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду, 13 лютага, пасля 22 гадзін цягнік "Гудагай –Маладзечна" збіў жанчыну на станцыі Пруды.**

Траўмаваная – 51-гадовая жыхарка вёскі Прудзінкі Верхнядзвінскага раёна.

Яна перабягала чыгуначныя пуці па пешаходным насціле непасрэдна перад цягніком, які рухаўся.

Жанчына загінула на месцы здарэння. Праводзіцца праверка.

**Таццяна СУБАЧ.**

## Укралі сабаку за пяць мільёнаў рублёў

**ВАЛОЖЫН. Гаспадары пакінулі свайго гадаванца на ланцугу каля дома ў Старынках у пяць гадзін вечара 26 студзеня. А калі вярнуліся праз шэсць гадзін, іх любімца ўжо не было.**

Яны ўпэўненыя, што сямімесячны сабака пароды лайка сам сарвацца з ланцуга не мог. Думаюць, што нехта ўбачыў яго, нагледзеў сабе і ўкраў.

Пра здарэнне паведаміў намеснік начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Віталь Мінкевіч**.

**Настасся РОЎДА.**

КРАДЗЯЖЫ

## У Маладзечне "завёўся кіяскёр"

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы крадзеж адбыўся 5 лютага, цяпер узбудзілі крымінальную справу. Другі – у нядзелю, 17 лютага. Злачынцы пакуль не ўстаноўленыя.**

Недзе з 20.00 да 5.30 раніцы 5 лютага злодзей выбіў шкло ў кіёску па Вялікім Гасцінцы. Ён украў тавар з грашыма на агульную суму больш за 12 мільёнаў рублёў.

Пасля праведзенай праверкі 15 лютага ўзбудзілі крымінальную справу.

А 17 лютага звярнуўся прадавец ужо другога кіёска, які знаходзіцца каля маладзечанскай дзіцячай бальніцы. Ён паведаміў, што хтосьці адціснуў ралеты, выбіў шкло ў ніжнай вітрыне і скраў тавару амаль на шэсць мільёнаў рублёў.

Злодзеі пакуль не знойдзеныя.

Пра здарэнні паведаміў начальнік штаба РАУС **Яўген Беркутаў**.

**Настасся РОЎДА.**

УВАГА! ВЫШУК

## Міліцыя шукае навучэнца з Ашмяншчыны

**АШМЯНЫ. Прапаўшага 21-гадовага Максіма Мечыслававіча Мацкевіча шукаюць ужо месяц.**



Ён нарадзіўся 1 мая 1992 года. Жыў у вёсцы Луды Ашмянскага раёна.

9 студзеня паехаў на заняткі ў Ашмянскі прафесійны аграрны-тэхнічны каледж і дагэтуль не вярнуўся. Дзе ён цяпер, невядома.

Прыкметы: на выгляд 20-22 гады, рост каля 176 сантыметраў, хударлявы, цёмна-русы, падстрыжаны коратка, дугападобныя бровы, карыя вочы.

Быў апрануты ў цёмную зімовую куртку, чорную шапку, сінія джынсы, скураныя чорныя паўчаравікі. Пры сабе меў мабільны тэлефон "Нокія".

Калі вы ведаеце, дзе цяпер Максім Мацкевіч, ці бачылі яго пасля 9 студзеня, патэлефануйце, калі ласка, у ашмянскі райаддзел міліцыі:

8(01593) 4-44-42

ці ў ашмянскі аддзел Следчага камітэта:

8(01593) 7-12-48.

**Артур ЖАБІНСКІ, следчы ашмянскага райаддзела Следчага камітэта, старшы лейтэнант юстыцыі.**



## Скраў бутэльку гарэлкі за 50 тысяч рублёў

**ВАЛОЖЫН. Пасля праведзенай праверкі 15 лютага ўзбудзілі крымінальную справу за крадзеж бутэлькі гарэлкі.**

39-гадовы жыхар Валожына ў краме ў Шарах украў бутэльку гарэлкі за 50 тысяч рублёў.

Не паспеў ён яе выпіць, як яго ўжо і затрымалі. Бутэльку, вядома, забралі.

Здарэнне адбылося 30 студзеня каля 11.30, паведамілі ў апаратыўна-дзяжурнай часці райаддзела міліцыі.

Мужчына нідзе не працуе, раней быў судзімы за крадзеж.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАПАМОГА

# Калі дзіця мае інваліднасць, вашай сям'і ёсць каму дапамагчы

**МАЛАДЗЕЧНА. 20 лютага на сустрэчы клуба "Мы разам" для бацькоў, якія выхоўваюць дзіця-інваліда да пяці гадоў, удзельнікі абмяркоўвалі юрыдычныя пытанні.**

Сустрэча адбылася ў тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Бацькі загадзя склалі спіс пытанняў, на якія адказвалі юрысконсульт цэнтра **Таццяна Фалевіч** і спецыяліст па сацыяльнай рабоце **Людміла Кебіч**.

Кіраўнік клуба псіхолаг цэнтра **Алена Камісарук** пачала са слоў аб тым, што бацькі не павінны ствараць вакуум над дзіцем толькі з-за таго, што ён ці яна мае абмежаваныя магчымасці.

– Калі такое здараецца, то мы спачатку пачынаем шкадаваць сябе, потым дзяцей, думаем, што нам усе ўсё павінны… Адсюль гіперапека: не рабі тое, не гуляй там. Між тым самі дзеці не разумеюць, што такое інваліднасць. Яны проста гуляюць разам – і здаровыя, і з абмежаваннямі. Падтрымлівайце гэта. Вам спатрэбіцца цярпенне. Але заўсёды памятайце, што вашых дзяцей ніхто не будзе так любіць, як вы.

Як пасля падсумавалі ўдзельніцы клуба, ніхто з іх не чакаў тут атрымаць настолькі практычную дапамогу.

Разглядаючы прыватныя сітуацыі ўдзельніц, спецыялісты цэнтра распавялі, на якія льготы, грашовыя дапамогі бацькі маюць права і якім чынам іх можна атрымаць.

– Хочацца, каб да нас прыходзіла больш бацькоў, – заўважыла Алена Камісарук. – Варта звяртацца адразу ж, як даведаліся пра тое, што дзіця мае інваліднасць. Мы заўсёды дзелімся каштоўным досведам, які ўжо атрымалі. Падтрымліваем і дапамагаем змагацца за свае правы. Да таго ж запрашаныя спецыялісты даюць бясплатныя кансультацыі. А ў канцы сустрэчы праводзім псіхалагічны трэнінг, каб можна было трошкі эмацыйна разгрузіцца. Таму тэлефануйце і наведвайце наш клуб, запрашаем!

На наступнай сустрэчы ў сакавіку ўдзельнікі абмяркуюць магчымасці атрымліваць санаторна-курортнае лячэнне і адукацыю ў цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і адукацыі.

**Маладзечанскі цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва знаходзіцца па вуліцы Таўлая, 4. Тэлефон псіхолага, з якімі можна пагаварыць наконт клуба "Мы разам", – 8(0176) 74-66-20.**

**МЯДЗЕЛ. Бацькі дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі могуць звярнуцца па дапамогу ў цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі Мядзельскага раёна.**

Працуе ад 2000 года, прымае дзяцей ад 3 месяцаў да 18 год. Тут праводзяцца заняткі па сацыялізацыі ў грамадстве, выпраўленні і змяншэнні дэфектаў. Бацькі могуць атрымаць кваліфікаваную дапамогу псіхолага, дэфектолага. Сацыяльны педагог растлумачыць пра сацыяльныя гарантыі, параіць, у якую навучальную установу паступаць выпускніку.

У Мядзеле яшчэ працуе аддзяленне дзённага знаходжання для інвалідаў тэрытарыяльнага цэнтра абслугоўвання насельніцтва. Размешчанае яно ў паліклініцы. Аддзяленне наведваюць пераважна маладыя людзі ад 18 да 31 года. Але сярод наведнікаў ёсць таксама і двое дзяцей, і людзі, старэйшыя за 31 год.

У аддзяленні наладжаная работа разнастайных гурткоў. Для моладзі і іх бацькоў працуе клуб "Сямейныя традыцыі". Наведнікі аддзялення разам з бацькамі ездзяць у экскурсійныя паездкі, адзначаюць святы.

**ВІЛЕЙКА. Раённы цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі ёсць у Вілейцы.**

– У першую чаргу, у нас бацькі атрымліваюць адукацыйныя паслугі для дзяцей з цяжкімі парушэннямі развіцця. Гэту групу наведваюць 10 дзяцей, – расказвае дырэктар цэнтра **Святлана Клямячыц**. – Бацькі аддаюць іх на дзесяць з паловай гадзін. А гэта вялікая палёгка для мам. Яны могуць адпачыць ці выйсці на працу – большасць з іх (сем з дзесяці) працуюць. Арганізаваны падвоз выхаванцаў ранкам і вечарам. Праводзяцца і з бацькамі разнастайныя мерапрыемствы, працуе бацькоўскі клуб "У коле сям'і нараджаецца душа". Яшчэ ў цэнтры атрымліваюць раннюю комплексную дапамогу дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ўзростам ад 1 да 3 год. А таксама карэкцыйную дапамогу – дзеці дашкольнага і школьнага ўзросту з разнастайнымі парушэннямі.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Падрабязней пра льготы бацькоў, якія выхоўваюць дзіця-інваліда, чытайце ў наступным нумары.**



Фота maminy-sovety.ru.

**Дзеці не разумеюць, што такое інваліднасць, яны проста гуляюць разам.**

ЛІТАРАТУРНЫЯ СУСТРЭЧЫ

# Эдгар По і Тувэ Янсан загучалі па-беларуску

**МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтральную раённую бібліятэку ў аўторак, 19 лютага, завіталі перакладчыкі з Мінска Алеся Башарымава і Ганна Янкута.**

Яны прэзентавалі маладзечанцам пераклады на беларускую мову твораў сусветнай літаратуры – "Капялюш чарадзея" Тувэ Янсан і са зборніка "Маска чырвонае смерці" Эдгара По.

Літаратурную вечарыну ладзіла грамадска-культурная кампанія "Будзьма!". Падарункі ад кампаніі чакалі ўсіх тых, хто добра ведае гісторыю свайго рэгіёна і беларускую літаратуру.

– Звычайна мы прапануем гасцям узгадаць 10 мужчын і 5 жанчын, значных для беларускай гісторыі, – кажа **Міраслаў Лазоўскі**, прадстаўнік "Будзьмы". – Жанчын менш таму, што іх не так лёгка прыгадваць – гэта мы заўважылі на ўласным досведзе.

Гасцям вечарыны трэба было таксама пералічыць беларускіх пісьменнікаў: падарунак атрымоўваў той, хто без паўтору назаве апошняе імя. Маладзечанцы расцягнулі конкурс надоўга – прозвішчы гучалі адно за адным. Арганізатары адзначылі, што пералік у Маладзечне быў самым доўгім з усіх гарадоў, дзе праводзілі такі конкурс.

Кніга "Капялюш чарадзея" ў перакладзе Алесі Башарымавай парадуе маленькіх чытачоў. У планах перакладчыцы – працягваць перакладаць знакамітыя прыгоды Мумі-Троля. Да таго ж спадарыня Алеся вядомая і перакладамі казак Ганса Хрысціяна Андэрсэна з дацкай мовы.

Кніга для дарослай аўдыторыі "Маска чырвонае смерці" Эдгара По аб'яднала ў сабе не толькі дэтэктыўныя аповесці амерыканскага пісьменніка, але і яго вершы і малавядомыя гумарыстычныя аповеды.

Па адным асобніку кожнай кнігі перакладчыкі пакінулі ў бібліятэцы. Да таго ж фонд бібліятэкі папоўнілі зборнікі маладых аўтараў, якія выйшлі пры падтрымцы інтэрнэт-часопіса "Прайдзісвет".

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



На вечарыну завіталі і людзі сталага ўзросту, і моладзь.

ТВОРЧАСЦЬ

## Выйшаў нотны зборнік Анатоля Шагава

**Народны хор "Світанак", фальклорны народны гурт "Забава", народны гурт "Любанія", гурт "Ваяры", дзіцячыя хоры "Cantus", "Мазаіка" – гучныя імёны творчых калектываў, якія былі створаныя на Вілейшчыне заслужаным дзеячам культуры Рэспублікі Беларусь Анатолем Аляксандравічам Шагавым.**

Гэтыя калектывы за час іх існавання пад яго кіраўніцтвам сталі вядомымі не толькі ў нашай краіне, але і далёка за мяжой.

У гэтым годзе Анатолю Шагаву споўнілася б 60 год.

"Усё, што поўніла мне сэрца..." – нотны зборнік беларускіх народных песень і аўтарскіх твораў для народнага хору, выдадзены да памятнай даты. Радок з лірычнага верша народнага песняра Якуба Коласа ў поўнай меры адлюстроўвае адносіны аўтара выдання да песні, да народнай музычнай культуры, да творчасці ўвогуле.

Адкрываюць выданне словы **Міхаіла Дрынеўскага**, мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча, народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, прафесара, які дае высокую адзнаку прафесійнай дзейнасці аўтара як кампазітара, творчай асобы.

У зборніку прадстаўленыя пятнаццаць партытур беларускіх народных і аўтарскіх песень рознага жанру, вакальных кампазіцый, якія былі створаныя Анатолем Шагавым у розныя часы на працягу шматгадовай творчай дзейнасці і апрабаваныя на канцэртных пляцоўках. Іх выкананне мела высокую адзнаку слухачоў і журы на ўсіх фестывалях, конкурсах. Калектывы пад яго кіраўніцтвам атрымлівалі вышэйшую адзнаку.

Акрамя нотнага тэксту, у зборнік увайшлі фотакалажы, складзеныя са здымкаў, якія былі зробленыя ў розныя часы. Яны адлюстроўваюць атмасферу свята, радасці, яскравасці, падкрэсліваюць самаадданасць, улюбёнасць удзельнікаў да творчасці, да народнай песні і з'яўляюцца ўспамінам і ілюстрацыяй мінулых дзён.

Адным з любімых заняткаў Анатоля Шагава была фатаграфія, таму менавіта яго фотаздымак "Паводка" – краявіды Вілейкі, ракі Віліі ранняй вясной – змешчаны на першай старонцы вокладкі.

Зборнік выдадзены пры падтрымцы ўпраўлення культуры Мінаблвыканкама, яго кіраўніка Анатоля Акушэвіча, дапамозе Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці і асабіста дырэктара ўстановы – **Раісы Вайцяхоўскай**.

Складальнікі зборніка (аўтар фотакалажаў, дызайну вокладкі – брат аўтара **Мікалай**, нотаграфіка жонкі **Ірыны Балуш**) працавалі з жаданнем падзяліцца творчай спадчынай Анатоля Шагава, каб творы ў яго апрацоўцы і аркестроўцы працягвалі гучаць, былі карыснымі сучасным творчым калектывам.

**Ганна СІНЕЛЬНІКАВА.**

**Даведка "РГ". Шагаў Анатоль Аляксандравіч** – заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. 1952 (Ямінск, Любанскі р-н) – 2010 (Вілейка). У 1968 годзе паступіў у Маладзечанскае музычнае вучылішча, у 1972 – у кансерваторыю. У 1976-78 – галоўны хормайстар Дзяржаўнага акадэмічнага хору імя Цітовіча. З 1979 года жыў у Вілейцы. У 1987 годзе атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. З 1988 года па 2009 год – дырэктар музычнай школы (з 1990 – школа мастацтваў). Кіраваў хорамі дарослых ("Любанія" і "Ваяры") і двума дзіцячымі ("Cantus" і "Мазаіка").

## Тэатр прызначае спатканне!

Напярэдадні 8 Сакавіка абласны драматычны тэатр прапаноўвае мужчынам запрасіць сваіх выбранніц на спектаклі. Сакавіцкая афіша ўключае ў сябе вясновы падарунак – падборку з чатырох камедыйных спектакляў **"Такое рознае каханне..."**.

Паколькі Дзень жанчын – свята міжнароднае, то тэатр пакажа іранічныя варыянты любоўных сітуацый на розны манер, напрыклад, на французскі – **"Банкет"**, 1 сакавіка ў 19.00; італьянскі – **"Каханне па-італьянску"**, 2 сакавіка ў 17.00; англійскі – **"Верная жонка"**, 5 сакавіка ў 19.00; беларускі – **"На другі дзень Сёмухі"**, 6 сакавіка ў 19.00.

Кошт білетаў – 18 000 рублёў.

Тэлефоны для даведак: адміністратара – **76-17-32**, каса – **75-24-17**.

• **ЗАТОЧКА ІНСТРУМЕНТУ**, ланцугоў бензапіл, дыскавых піл, свердлаў, нажовак па дрэве і г.д. Вул.Касманаўтаў 1-а, ларок "Выраб ключоў". ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3731067, (8-029) 3811905.*

• Зробім металавырабы, гаражныя вароты, агароджы, плот і інш. Прапануем металапракат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Каханоўскі В.А. УНП 691502073. Т. (8-029) 8716226, (8-029) 9355568.

• Зруб, ручная цыліндроўка любых памераў. Т. (8-033) 6326464.*

• Насціланне падлогі ўсіх відаў, работа з вагонкай і іншыя аддзелачныя работы. ІП Петрашкевіч М.М. УНП 691401071. Т. (8-029) 1113493.*

• Прафесійныя музыкі. Вясёлы тамада. Т. (8-033) 6635375.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, АТЛАНТ, ARDO, CANDY, WHIRLPOOL, ZANUSSI, ELEKTROLUX і інш. ІП Аксёнаў В.Р. УНП 590339676. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 3760789.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. (8-0176) 772328, (8-029) 2710273, (8-044) 5559347.*

• **СЕТКА РАБІЦА** (гатовая і пад заказ, з матэрыялу заказчыка). ІП Сарокка. УНП 600066115. Т. (8-029) 3271119, (8-0176) 771119.*

• Стужкі для выпускнікоў ад 9 да 20 тысяч. Геліевыя шары ад 7200 рублёў. Крама "Фіеста", г.Маладзечна, ул.Валынца, 7. ЧТП УП "Мір Дачніка" УНП 690237633. Т. 749602, МТС (8-029) 2280154, Вэлком (8-029) 1784037.

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльныя бурбалкі) і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Кананові́ч І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя – 5 куб., дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 6643146, (8-029) 5895068.*

• Блокі газасілікатныя, дастаўка. ІП Арлова О.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413, (8-029) 7818704.*

• **ВАГОНКА (ХВОЯ), 1,2 ГАТУНКУ, ТАННА, ПЛІНТУС, НАЛІЧНІК.** ІП Бондар А.А. УНП 691504724. **Т. (8-029) 6583120**.*

• Еўравагонка (лісцёвая, сасновая). Т. (8-029) 6954737.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бетонамяшалка, воданагравальнік, паветранагравальнік, помпа 14м3/ч, камень. Т. (8-029) 2599940.*

• Бульбасаджалка навясная 2-радная, 1500 у.а., граблі навясныя, 300 у.а. Т. (8-029) 7075402.

**МУЗІНСТРУМЕНТЫ**

• Баян 4-радны, 2-галосны, гогнараўскія галасы. Т. 765103, 753171.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР»- СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

**МЭБЛЯ**

• Спальня "Мара", б/у, выдатны стан і секцыя "Нач" горка, б/у, выдатны стан. Т. (8-029) 5584064.

• Тахта 1-спальная, стол камп'ютарны, прыхожая, 3 часткі, усё б/у ў добрым стане. Т. 758322, Вэлком (8-029) 3686441.

• Тахта 1-спальная, шафа 4-дзверная, усё б/у ў добрым стане. Т. (8-029) 2797106, (8-044) 7097811.*

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

• Кабан жывой вагай, 25000 за 1 кг. Т. (8-01771) 32192, (8-029) 7050802.

• Кабан. Т. (8-029) 8546104, (8-0176) 763090.*

• Маладняк трусоў бельгійскі велікан, мяса трусоў. Т. (8-029) 7628438.*

• Пеўнікі маладыя. Т. (8-029) 2725536.

**ІНШАЕ**

• Вокны, шклопакеты, дрэва фірмы "Забудова", нестандартныя, 185x113-4 шт., 185x143-1 шт. Т. (8-029) 5319640, (8-0176) 757346.*

• Газавая гарэлка (новая), для абсмальвання свіней. У камплекце шланг і насадкі. Т. (8-033) 6358409.*

• Дыван 2x3, авальны, новы, тэлевізар Гарызонт б/у. Т. Вэлком (8-029) 3520117, 764236.*

• Каляска "Джып" у выдатным стане, нядорага. Т, (8-029) 2591429.

• Лаза для пляцення кошыкаў, мэблі і г.д. розных памераў. Т. (8-029) 3878428.





































































• Ложак дзіцячы "ківач" са скрынямі для бялізны, матрац, манеж гульнявы, калыска дзіцячая модульнага тыпу, колер універсальны, Маладзечна. Т. 775146, (8-029) 3997088.

• Свініна дамашняя. Т. (8-029) 8437869.

• Стэлажы абутковыя б/у для крамаў сэканд, сток ці іншых. Вешалкі. Т. (8-029) 8767997.

• Шарсцяная пасцель новая (коўдра, наматрацнік, 4 падушкі) камплектам ці ў розніцу, выраб еўрапейскай кампаніі "Лама Голд". Т. (8-029) 5515977, (8-044) 4874024.

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, трубу, вугалок. Т. (8-029) 5586238.*

• Батарэю чыгунную, б/у. Т. (8-029) 6319537.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку**

• Сенавarашылку ГВЦ-3. Т. (8-029) 2725536.

• Мотаблок ці міні-трактар, новы ці б/у, Мядзел. Т. (8-029) 3892127.

• Трактар Т-25, Т-16 з дакументамі. Т. (8-029) 7071054, (8-029) 2500955.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• DDR 1, 1 GB, Samsung або Hynix. Т. (8-029) 6550799, slabada@tut.by.*

**Музінструменты**

• Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**ЖЫВЁЛУ**

• Каня, авечак, бумную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***

• АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ. Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Карціны, іконы, манеты, рублі СССР, статуэткі СССР, медалі, знакі, ордэны і інш. Т. МТС (8-029) 5586238.*

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Балон кіслародны вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*

• Вагон-бытоўку, кантэйнер, забяру сам. Т. (8-029) 7755211.*

• Скуркі куніцы, чарнабуркі, пясца. Т. (8-029) 8552646.*

**ІНШАЕ**

• **ЕГІПЕТ, БАЛГАРЫЯ, ТУРЦЫЯ, УКРАІНА** і інш. Пляжны адпачынак, туры па Еўропе. Турагенцтва ЮГ. ТАА "БЦСП". УНП 691403166. Т. 707033, (8-044) 7401964.

• Мы адчыніліся. "Сэканд Хэнд", г.Вілейка, вул.Кастрычніцкая, 32. УНП 691171741. Т. (8-033) 3139831.

• Сэканд хэнд Extra, оптам (адзенне, абутак), ад 4 еўра за кг. ЧТУП "Медзяніца". УНП 691395157. Т. (8-029) 8767997.

• **ТУР ПА ІТАЛІІ**. Запрашаем у займальны тур па Італіі з 24 па 30 сакавік 2013: Вена-Флярэнцыя-Рым-Ватыкан-Венецыя-Будапешт. Турагенцтва ЮГ. ТАА "БЦСП". УНП 691403166. Т. 707033, (8-044) 7401964.

**ЗГУБЛЕНА**

• 14 лютага 2013 года каля медыцынскага цэнтра "Салюс" згублены жаночы кашалёк карычневага колеру. Праявіце чалавечнасць, за ўзнагароджанне, Маладзечна. Т. (8-029) 1501357.

# ПРАЦА

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Маляр шукае падпрацоўку: фарбаванне МДФ, дрэва, бейц, лак. Т. МТС 5685441.*

• Шукаю работу па доглядзе. Т. (8-029) 2713871, (8-01771) 53260.

**ПАТРАБУЮЦЦА**

• Аўташколе "Ілан-аўта" патрабуецца майстар па навучанні кіраванню аўтамабілем. УНП 690614035. Т. (8-029) 8770011.*

• ДУА "Гарадзілаўская сярэдняя школа" патрабуецца вадзіцель катэгорыі Д для перавозкі дзяцей. УНП 601058167. Т. (8-0176) 725372, (8-029) 1295099.*

• Сялянскай гаспадарцы "Вулей" (Вілейскі р-н) патрабуецца механізатар з вопытам работы ў сельгасвытворчасці, аплата высокая. Без прадастаўлення жылля. Пасведчанне аб дзярж.рэг. №503 ад 2002/07/23 г. УНП 600008888. Т. (8-029) 9864742.

• Сядзелка дома, 7 дзён у месяц, Маладзечна. Т. (8-033) 6635997.

• **ТАА "АНАЛАГ-БУД" ПАТРАБУЕЦЦА НА ПРАЦУ ТЫНКОЎШЧЫКІ-МАЛЯРЫ, ПЛІТАЧНІКІ 4-5 РАЗРАДАЎ, ЗАРПЛАТА ВЫСОКАЯ. УНП 691396416. Т. (8-0176) 707160, (8-029) 1712232.***

• ТАА "СмаргоньІнвестБудПраект" патрабуецца на пастаянную працу архітэктар, інжынер-каштарыснік (сметчик). г.Смаргонь, вул.Савецкая, 21, офіс 8. Т. (8-01592) 35555, (8-029) 3539276, (8-044) 5592175.

• У магазін "Прадукты" патрабуецца прадавец (зарплата ад 3,8 млн.руб.), прыбіральшчыца (зарплата ад 2,8 млн.руб). Сядзіба "Астапаўскай-Субач". УНП 690612563. Т. 752503, Вэлком (8-029) 6662449.*

• Швейнай фірме патрабуюцца швачкі і тэрмааперацыяўшчыца. ЧУП "АсольМода". УНП 190615877. Т. (8-029) 7547189, (8-029) 7612222, (8-029) 7070569.*

• Патрабуецца машыніст аўтакрана, работа ў Смаргоні, зарплата высокая. ІП Арлова О.Р. УНП 590976095. Т. (8-044) 7896520, (8-029) 7457468.

# Пачалася перарэгістрацыя пасведчанняў

**Аб арганізацыі работы па перарэгістрацыі пасведчанняў аб праве на льготы ветэрана баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў і выдачы пасведчанняў нацыянальнага ўзору**



Фота blogsochi.ru

**Пасведчанні даюць права карыстацца заслужанымі льготамі.**

1 кастрычніка 2012 года Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь падпісаны Указ №448 "Аб некаторых пытаннях перарэгістрацыі дакументаў, якія пацвярджаюць правы грамадзян на льготы".

У адпаведнасці з дадзеным Указам з 1 студзеня 2013 года па 31 снежня 2014 года ў Рэспубліцы Беларусь арганізавана работа па перарэгістрацыі пасведчанняў аб праве на льготы адзінага ўзору, устаноўленага ўрадам СССР, па форме, якая дзейнічала на 1 студзеня 1992 года, з выдачай пасведчання ветэрана баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў нацыянальнага ўзору, а таксама скасавання пасведчанняў у выпадку неправамернасці іх выдачы (далей – перарэгістрацыя).

Перарэгістрацыі (праверка правамернасці выдачы пасведчанняў) належаць выдадзеныя ва ўстаноўленым парадку да 1 студзеня 2013 года грамадзянам Рэспублікі Беларусь, а таксама замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія пастаянна жывуць у Рэспубліцы Беларусь:

**Пасведчанні аб праве на льготы, выдадзеныя:**

- вайскоўцам, у тым ліку звольненым у запас (адстаўку), ваеннаабавязаным, прызваным на ваенныя зборы, асобам начальніцкага і радавога саставу, якія накіроўваліся органамі дзяржаўнай улады СССР у Афганістан ці іншыя дзяржавы і прымалі ўдзел у баявых дзеяннях пры выкананні службовых абавязкаў у гэтых дзяржавах;
- вайскоўцам аўтамабільных батальёнаў, якія накіроўваліся ў Афганістан для дастаўкі грузаў у перыяд вядзення баявых дзеянняў;
- вайскоўцам лётнага саставу, якія здзяйснялі палёты на баявыя заданні ў Афганістан з тэрыторыі СССР на перыяд вядзення баявых дзеянняў.

**Пасведчанні аб праве на льготы выдадзеныя:**

работнікам (уключаючы членаў лётных экіпажаў паветраных суднаў грамадзянскай авіяцыі, якія выконвалі палёты ў Афганістан падчас вядзення баявых дзеянняў), якія абслугоўвалі вайсковыя кантынгенты Узброеных Сіл СССР на тэрыторыі іншых дзяржаў і атрымалі раненні, кантузіі ці калецтвы або ўзнагароджаныя ордэнамі і медалямі СССР за ўдзел у забеспячэнні баявых дзеянняў;

работнікам, якія накіроўваліся ў Афганістан са снежня 1979 года па снежань 1989 года і адпрацавалі там устаноўлены тэрмін ці былі адкамандзіраваныя датэрмінова па ўважлівых прычынах.

**Пасведчанні інваліда аб праве на льготы выдадзеныя:**

- вайскоўцам, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва, што атрымалі пры абароне Айчыны ці выкананні абавязкаў вайсковай службы ў дзяржавах, дзе вяліся баявыя дзеянні;
- асобам начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і органаў дзяржаўнай бяспекі, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва ці захворвання, атрыманых пры выкананні службовых абавязкаў у раёне баявых дзеянняў;
- работнікам, якія абслугоўвалі дзеючыя кантынгенты ў Афганістане ці іншых дзяржавах і сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва ці захворвання, атрыманых у перыяд вядзення баявых дзеянняў.

**Перарэгістрацыю будуць ажыццяўляць:**

- вайскоўцам, якія праходзяць службу ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, – дзяржаўны орган па месцы праходжання вайсковай службы;
- асобам, якія накіроўваліся ў краіны, дзе вяліся баявыя дзеянні, праз Камітэт дзяржаўнай бяспекі СССР і Міністэрства ўнутраных спраў СССР і звольненыя з ваеннай службы, – Камітэтам дзяржаўнай бяспекі і Міністэрствам унутраных спраў;
- работнікам (уключаючы членаў лётных экіпажаў паветраных суднаў грамадзянскай авіяцыі, якія выконвалі палёты ў Афганістан у перыяд вядзення баявых дзеянняў), якія абслугоўвалі вайсковыя кантынгенты Узброеных Сіл СССР на тэрыторыі іншых дзяржаў і атрымалі раненні, кантузіі ці калецтвы ці ўзнагароджаныя ордэнамі і медалямі СССР за ўдзел у забеспячэнні баявых дзеянняў, якія накіроўваліся ў Афганістан са снежня 1979 года па снежань 1989 і адпрацавалі там устаноўлены тэрмін ці іх адкамандзіравалі датэрмінова па ўважлівых прычынах, а таксама асобам, звольненым з вайсковай службы, – ваенным камісарыятам раёна (горада), згодна з рэгістрацыяй па месцы жыхарства ўказаных асоб;
- інвалідам баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў, – дзяржаўным органам, які прызначае і (ці) выплачвае пенсію.

**Для перарэгістрацыі грамадзяне прыносяць у дзяржаўны орган, які ажыццяўляе перарэгістрацыю, наступныя дакументы:**

- заяву;
- пашпарт ці іншы дакумент, які засведчвае асобу;
- арыгінал (дублікат) пасведчання;
- адзін фотаздымак заяўніка памерам 30х40 міліметраў;
- ваенны білет;
- іншыя дакументы, якія пацвярджаюць знаходжанне ў Афганістане ці іншых дзяржавах, дзе вяліся баявыя дзеянні (дакументы, якія пацвярджаюць: удзел у баявых дзеяннях пры выкананні службовых абавязкаў на тэрыторыі іншых дзяржаў; службу ў саставе аўтамабільных батальёнаў, якія накіроўваліся ў Афганістан для дастаўкі грузаў у перыяд вядзення там баявых дзеянняў; прыналежнасць да лётнага саставу, які здзяйсняў вылеты на баявыя заданні ў Афганістан з тэрыторыі СССР у перыяд вядзення там баявых дзеянняў; факт работы па абслугоўванні вайсковых кантынгентаў Узброеных Сіл СССР на тэрыторыі іншых дзяржаў, а таксама наяўнасць дакументаў аб атрыманых раненнях, кантузіях ці калецтвах ці пасведчанняў аб узнагароджанні ордэнамі і медалямі СССР за ўдзел у забеспячэнні баявых дзеянняў; факт накіравання на работу ў Афганістан і адпрацоўкі ўстаноўленага пры накіраванні тэрміну ці адкамандзіравання датэрмінова па ўважлівых прычынах);
- пасведчанне інваліда баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў нацыянальнага ўзору (для інвалідаў);
- заключэнне медыка-рэабілітацыйнай камісіі (для інвалідаў).

Перарэгістрацыя будзе праводзіцца да 1 ліпеня 2014 года. Ад 1 ліпеня да 31 снежня 2014 года дзяржаўнымі органамі , якія праводзяць перарэгістрацыю, будзе ажыццёўлена выдача пасведчанняў ветэрана баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў, інваліда баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў нацыянальнага ўзору.

Пры ажыццяўленні перарэгістрацыі пасведчанні забіраюцца дзяржаўным органам, які праводзіць перарэгістрацыю, у выпадку:

- адсутнасці дакументаў, што пацвярджаюць статус ветэрана баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў, інваліда баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў;
- неадпаведнасці пасведчання ўстаноўленай форме;
- наяўнасці ў пасведчанні выпраўленняў і недакладнасцяў.

**За інфармацыяй аб парадку перарэгістрацыі і атрымання пасведчанняў нацыянальнага ўзору звяртайцеся ў Маладзечанскі раённы ваенны камісарыят Мінскай вобласці да Мікалая Казіміравіча Садоўскага, тел. 77-82-53.**

**Маладзечанскі раённы ваенны камісарыят.**

ГІСТОРЫЯ

# Вялікі Сэрвач – “раскіданае гняздо” Козелаў-Паклеўскіх

**ВІЛЕЙКА. 150 год мінула ад пачатку паўстання 1863 года. Годны ўдзел у падзеях таго часу бралі пяцёра братоў Козелаў-Паклеўскіх, якія нарадзіліся ў маёнтку Вялікі Сэрвач (цяпер вёска Вялікая Сэрвач).**

Сэрвач – назва балцкага паходжання. Ад “serga” – “хвароба” ці “вартаваць”.



Маёнтак у Сэрвачы.

## Вёска Сэрвач

Сэрвач (Вялікая Сэрвач ) – вёска ў Касцяневіцкім сельсавеце, у складзе раённага сельскагаспадарчага прадпрыемства “Першы Беларускі”. Знаходзіцца за 31 кіламетр на паўночны ўсход ад Вілейкі, 18 – ад чыгуначнай станцыі Княгінін на лініі Маладзечна-Полацк і за 131 кіламетр – ад Мінска. 18 гаспадарак, 51 жыхар на 2008 год.

Паводле гістарычных крыніц вядомая з 16 стагоддзя, маёнтак, выдзелены з Куранецкай воласці. У 1505 годзе Я. Ю. Забярэзінскі, ваявода троксkі, маршалак земскі, атрымаў каралеўскі прывілей на пяць сёл даннікаў над Сэрвачам.

У 1555 годзе – маёнтак, уласнасць Ю. Ванькевіча, першае ўпамінанне пра мястэчка, царква. У 1626-м – уласнасць М. Войны, каралеўскага сакратара. У 1744-м – маёнтак Гецэвічаў, суддзяў браслаўскіх, царква (уніяцкая).

У 1765 годзе – маёнтак Элеаноры Радзевіч; у мястэчку 15 двароў, 96 жыхароў. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) – у складзе Расейскай імперыі. У 1800 годзе двор, сяло Сэрвач Вялікая – сумесная ўласнасць В. Козел (14 двароў, 100 сялян) і Сэрвацкай каталіцкай плябаніі (19 двароў); касцёл.

Недзе ў 1800 годзе маёнтак адыходзіць да Козелаў-Паклеўскіх.

## КОЗЕЛЫ-ПАКЛЕЎСКІЯ

Старажытны шляхецкі род уласнага герба “Козел” у ВКЛ. Паходзіць з Прыдняпроўя. Родапачынальнік Казёл у 1415 годзе быў паслом вялікага князя ў горадзе Вісліца (Польшча). У 1504-м узгадваюцца Ян і Мікалай Казлы, ложнічыя караля і вялікага князя Аляксандра. Верагодна, у 16 стагоддзі Савіч Казёл перасяліўся з Прыдняпроўя ў паўночна-заходнюю Беларусь. Ад пачатку 17 стагоддзя род пачаў звацца Козелы-Паклеўскія – ад назвы свайго маёнтка Паклева ў Ашмянскім павеце; валодаў таксама Сухадоламі (Ашмянскі павет), землямі ў Віцебскім ваяводстве і іншымі.

Ад 1667 да 1793 года прадстаўнікі роду былі старостамі дзісенскімі, займалі розныя пасады ў Ашмянскім, Вількамірскім, Аршанскім паветах, Інфлянтах. У канцы 18 стагоддзя ўтварыліся дзве новыя галіны роду: літоўская з сядзібай у Антокалі (Вількамірскі павет) і віцебская з сядзібай у Быкаўшчыне (Лепельскі павет).

Кніга “Памяць. Вілейскі раён” узгадвае нейкую Барбару (Варвару) Козел-Паклеўскую з сёстрамі як першую гаспадыню Сэрвачы з роду Козелаў. Але ж радавод Козелаў-Паклеўскіх гаворыць нам пра іншае. Згодна з радаводам, першым уласнікам маёнтка з гэтага роду быў Юзаф-Каласанты Козел-Паклеўскі, які атрымаў Сэрвач як пасаг, калі ажаніўся з паненкай з роду Радзевічаў, папярэднікі уладароў маёнтка.

А чаму тады ў энцыклапедыі пішацца “В.Козел”? Хутчэй за ўсё гэта пераклад на рускую мову імя Юзаф (Іосіф ці Восіп), бо на той час Сэрвач быў ужо ў складзе Расейскай імперыі.

“Имение Великий Сервеч принадлежит помещику Ивану Осипову Козеллу по наследству от отца его как это видно из представленных документов (вводный акт Временного отделения Вилейского земского суда от 26 января 1841 года №2) и состоит в нераздельном и исключительном в его Козелла владению.” Гэта ўрывак з апісання маёнтка Вялікі Сэрвач, зробленага ў 1863 годзе расейскімі ўладамі з нагоды падрыхтоўкі да канфіскацыі маёмасці Яна Козела за ўдзел яго сыноў у паўстанні.

Сапраўды, пасля Юзафа-Каласанты наступным уладальнікам Сэрвачы быў ягоны сын Ян Напалеон Козел-Паклеўскі. Гэты Ян і быў бацькам братоў-“інсургентаў”: Яна, Вінцэнта, Зянона, Юзафа і Міхала.

## Ян Козел-Паклеўскі

Псеўданімы Скала, Якуб, Глябовіч (1837-1896).

Нарадзіўся ў 1837 годзе ў маёнтку Сэрвач Вілейскага павета. Яго бацька, таксама Ян, быў ліберальным памешчыкам, уладальнікам маёнтка Вялікі Сэрвач, Жар і Харак, ганаровым куратарам гімназій Мінскай губерні, уласнікам некалькіх прыбытковых дамоў-камяніц у Вільні. Маці – Юзэфа Таленсдарф.

Да 1852 года выхоўваўся дома, потым паступіў у школу гвардзейскіх падпрапаршчыкаў у Пецярбург. Далей была вучоба ў Вайсковай інжынернай акадэміі, якую скончыў з залатым медалём. У 1859 годзе падаў у адстаўку ў званні паручніка і адразу выехаў у Парыж, дзе паступіў у Вышэйшую вайсковую школу на інжынерны факультэт.

Падчас вучобы ў Пецярбургу ён увайшоў у рэвалюцыйны гуртох пад кіраўніцтвам З. Сераkоўскага і Я. Дамброўскага, але за мяжой ён яшчэ больш пераканаўся ў неабходнасці барацьбы з самадзяржаўем за незалежнасць роднай Айчыны. Таму ў 1861 годзе ён вяртаецца на радзіму, дзе стварае арганізацыю “чырвоных” у Мінску.

Увосень 1862 года Ян Козел як чалавек з шырокімі армейскімі сувязямі, быў выкліканы кіраўнікамі падполля ў Вільню замест Л. Звяждоўскага, пераведзенага па службе ў Маскву. Козел стаў чальцом Літоўскага Правінцыйнага камітэта, бліжэйшым паплечнікам Кастуся Каліноўскага па падрыхтоўцы паўстання на Беларусі і ў Літве.

Калі пачалося паўстанне ў Польшчы (студзень 1863), Ян Козел па даручэнні Каліноўскага дзеля аб’яднання дзеянняў канспіратараў ездзіў у Пецярбург і Маскву, аб’ехаў Беларусь і толькі калі пачуўся пераслед яго з боку царскіх уладаў быў вымушаны з’ехаць у Польшчу.

З вясны 1863 года працаваў у паўстанцкай арганізацыі ў Варшаве, быў рэферэнтам у вайсковым аддзеле паўстанцкага ўрада і нават камендантам Варшавы.

Увосень 1863 ён пад псеўданімам Скала (палкоўнік Скала) прызначаецца ваенным начальнікам Аўгустоўскага і Гродзенскага ваяводстваў, потым камандзірам 3-га корпуса паўстанцкіх узброеных сіл.

Пасля задушэння паўстання апынуўся ў эміграцыі, спачатку ў Дрэздане, а потым у Парыжы. У канцы 1864 года французскі ўрад прапанаваў яму згуртаваць і ўзначаліць аддзел сапёраў для запланаванага будаўніцтва канала ў Панаме, але справа тая не здзейснілася. З 1865 года працаваў інжынерам у Ла-Рашэлі.

Калі пачалася франка-пруская вайна (1870 год), браў у ёй удзел на баку Францыі. Атрымаў пад сваё кіраўніцтва брыгаду пяхоты з Вандэі, потым узначальваў штаб 24 корпуса. Па заканчэнні вайны апынуўся ў Марсэлі, дзе спрабаваў працаўладкавацца. Там пазнаёміўся з расейскім консулам, з якім дамовіўся выдаваць часопіс, каб прапагандаваць ідэі панславянства.



Ян Козел-Паклеўскі.

Гэткая здрада выклікала абурэнне ў колах польскай эміграцыі, і Ян Козел вымушаны быў вярнуцца на радзіму. Па вяртанні (студзень 1872) ён быў арыштаваны і сасланы простым жаўнерам у горад Верны (цяпер Алматы).

Пасля службы ў войску застаўся ў Сярэдняй Азіі. У 1875 годзе атрымаў патэнт на заснаванне прадпрыемства па здабычы і апрацоўцы мармуру ў Кульджы. Акрамя гэтага меў яшчэ параход на рацэ Ілі і кіраваў будаўніцтвам моста праз раку Муграб, у Ашхабадзе.

У 1883 вярнуўся на радзіму. Памёр 7 мая 1896 года. Пахаваны ў Бабруйску.

**Працяг будзе.**

**Зміцер ХАЦЕНЧЫК, сябра Вілейскай суполкі “Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры”.**

**Архіўныя дакументы і фотаздымкі перададзены старшынёй Вілейскай суполкі “ТАПГіК” Дзянісам КАНЕЦКІМ.**

КАЛЯНДАР

**205 гадоў** назад нарадзіўся Антон Мухлінскі (1808-25.10.1877), вучоны-ўсходазнаўца, скончыў Маладзечанскае шляхетнае павятовае вучылішча, Віленскі ўніверсітэт, жыў у Турцыі і Егіпце, з’яўляўся прафесарам арабскай, турэцкай моў і славеснасці ў Пецярбургскім універсітэце, выкладаў гісторыю і геаграфію ў Турцыі.

***

**22 лютага.** 100 гадоў з дня пастаноўкі (1913) у Пецярбургу гуртком беларускіх студэнтаў камедыі Янкі Купалы “Паўлінка” (у ролі Паўлінкі – Паўліна Мядзёлка).

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Антона Сеўчанкі (1903–1978), фізіка, акадэміка АН БССР, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1957 – 1972), Героя Сацыялістычнай Працы.

***

**23 лютага.** Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь.

***

**135 гадоў** з дня нараджэння Казіміра Малевіча (1878–1935), мастака.

***

**110 гадоў** таму ў мястэчку Будслаў (цяпер Мядзельскі раён) нарадзіўся Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1903–1989), грамадскі і палітычны дзеяч.

***

**24 лютага.** 90 гадоў таму нарадзіўся Ігар Глебаў (1923–1986), беларускі скульптар. Сярод яго прац і манумент у гонар вызвалення Маладзечна.

***

**75 гадоў** з дня нараджэння Іосіфа Скурко (1938, Мядзельскі раён –1989), беларускага паэта, кінадраматурга, перакладчыка.

***

**25 лютага.** 80 гадоў з дня стварэння Беларускага дзяржаўнага праектнага інстытута (Белдзяржпраект).

***

**26 лютага.** 95 гадоў з дня нараджэння Пятра Машэрава (1918–1980), партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы.

***

**85 гадоў** назад (1928) у Мінску створаны Камітэт абароны Беларускай сялянска-рабочай грамады (камітэт узначаліў Янка Купала).

***

**27 лютага.** 115 гадоў з дня нараджэння Васіля Шчарбакова (1898 – 1938), беларускага гісторыка, грамадскага дзеяча, акадэміка Акадэміі навук Беларусі.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ПРАВЕРАНА НА САБЕ

# Як мы шукалі ў крамах воцат, парасон і станік



Фота Наталлі ТУР.

Прадаўшчыца ў малочным аддзеле дапамагае карэспандэнтам “РГ” знайсці вяршкі. Ці разумее яна, што шукае, – для нас засталося загадкай.

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Дня роднай мовы карэспандэнты “Рэгіянальнай газеты” высветлілі, ці гатовыя прадаўцы маладзечанскіх крамаў да беларускай мовы ў паўсядзённым жыцці.**

Для гэтага мы прайшліся па гандлёвых радах у пошуках тавараў з адметнымі беларускімі найменнямі. Каб зрабіць эксперымент разнастайным, мы выбіралі прадукты, мэблю, канцылярскія тавары і адзенне.

## Размовы з “перакладчыкам” і без

Першым пунктам нашага прыпынку стала крама з бялізнай. Мы звярнуліся да прадаўшчыцы па дапамогу – хацелі знайсці прыгожы сіні станік. Жанчына не зразумела, што мы шукаем, і перапыталася: “Сіні… што?” Нечакана на дапамогу прыйшла незнаёмая пакупніца: “Бюстгальтар”.

Такім чынам, пры дапамозе “перакладчыка”, мы высветлілі, што бялізны неабходнага нам колеру ў краме няма. Але тое, што слова “станік” – звычайнае для некаторых маладзечанцаў, вельмі парадавала.

Цікавая суразмоўца сустрэлася нам у мэблевай краме. З мэтай як мага больш заблытаць прадаўшчыцу, мы звярнуліся з пытаннем: “Ці можна ў вас падабраць канапу і дыван у тон, ружовага колеру?”

Але заблытаць жанчыну ў нас не атрымалася: за канапай яна накіравала нас у залу мэблі, а за дыванам – у аддзел дываноў. Прадаўшчыца паказала ўсё, што ёсць ружовага ў краме, і пры гэтым імкнулася адказваць таксама па-беларуску.

Па дарозе сустрэлася нам і галантарэйная крама. У ёй мы вырашылі пашукаць дзіцячы парасон. На пытанне “дзе ў вас парасоны?” прадаўшчыца сталага ўзросту адказала: “Зонтики на нижней витрине”. На пытанні аб кошце, памеры і колеры яна таксама адказвала па-руску.

Падобная сітуацыя была і ў краме канцылярскіх тавараў. Прадаўшчыца без перапытванняў паказала каляровыя алоўкі.

## Вяршкі і воцат – прадукты-таямніцы

Больш за ўсё непаразуменняў чакала нас у прадуктовай краме. Спачатку мы накіраваліся ў малочны аддзел, каб набыць вяршкі.

**Пытанне “якія вяршкі ў вас самыя тлустыя?” прымусіла прадаўшчыцу глыбока задумацца.**

Але адказваць яна не спяшалася – глядзела, у які бок вітрыны мы кідаем позіркі. Пасля паказала нам на тварог і параіла шукаць у гэтым месцы. На пытанне “ці ёсць у вас вяршкі ўвогуле?” яна адмаўчалася. Склалася ўражанне, што прадаўшчыцы было проста няёмка прызнацца, што яна не разумее, пра што ідзе гаворка.

Далей мы пайшлі па воцат. Тут, пасля трохразовага перапытвання і погляду здзіўленых вачэй, нам давялося сказаць па-руску – “уксус”. Толькі тады маладая прадаўшчыца змагла паказаць нам неабходны тавар.

Ніякіх праблем не ўзнікла ў кандытарскім аддзеле. Такія словы, як “цукеркі” і “печыва”, успрымаліся гандляркамі без здзіўлення.

## “Говорите по-человечески!”

Падчас эксперыменту ў галаве ўсплывалі прыклады непаразуменняў з уласнага досведу. Неяк, набываючы маркі на пошце, карэспандэнт “РГ” патрапіла ў непрыемную сітуацыю. Прадаўшчыца і з трэцяга разу не змагла зразумець, што я маю на ўвазе, калі прашу маркі для перасылкі картак у далёкае замежжа. Пасля чарговага перапытвання яна сказала: “Вы можете мне нормально, по-человечески сказать?” Такія сітуацыі складана нават каментаваць.

Быў і выпадак у прадуктовай краме, зноў жа звязаны з вяршкамі. Прадаўшчыца не змагла зразумець, што ад яе хоча беларускамоўная пакупніца. Калі я паказала ёй на вітрыне вяршкі, яна адказала на эмоцыях: “Это вы сливки так называете? Какие же они вершки? Вы бы их ещё нижками назвали…”.

Зусім свежы прыклад – з наведвання салона татуіроўкі ў Мінску. На маю просьбу паказаць завушніцы ў храсток, майстар татуіроўкі пачаў у адкрытую кпіць з маёй мовы, крыўляючы беларускі акцэнт. Набраўшыся цярпення, я моўчкі падышла да касы.

І тут майстар пачаў разлічваць мяне на чыстай беларускай. Як высветлілася, ён проста хацеў праверыць маю рэакцыю і пабачыць, як я пастаўлюся да такой “моўнай агрэсіі”.

Толькі праз пару тыдняў, шукаючы інфармацыю ў інтэрнэце, мне на вочы патрапіўся фотадымак майстра са сталічнага салона. Аказваецца, маю моўную трываласць правяраў саліст гурта “Зніч” Алесь Таболіч.

## Маладое пакаленне дрэнна ведае беларускую мову

Тую выснову, якую мы зрабілі пасля эксперымента, нельга назваць нечаканай. Больш звыклай і зразумелай беларуская мова з’яўляецца для старэйшага пакалення.

Вядома, падчас эксперымента мы адмыслова выбіралі найбольш адметныя беларускія словы, пераклад якіх не мае нічога агульнага з рускім адпаведнікам. Але і рэакцыя на іх была таксама вельмі рознай.

Людзі сталага веку разумеюць мову з усімі яе адметнасцямі, часам і адказваюць на беларускамоўныя пытанні па-беларуску.

Для моладзі ўсё больш складана. Маладыя прадаўшчыцы не толькі не да канца разумелі, пра што ідзе гаворка, але і відавочна здзіўляліся, калі разумелі, што да іх звяртаюцца па-беларуску. Часам паўтараючы адно і тое ж слова па тры разы, мы адчувалі сябе проста іншаземцамі.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Наталля ТУР.**

СЛОЎНІК

## Адметныя словы беларускай мовы пад адной вокладкай

**МАЛАДЗЕЧНА. Яўгенія Чаплінская, 87-гадовая жыхарка вёскі Літва, склала слоўнік больш чым на тысячу слоў, каб беларускае не было падобнае да рускіх і польскіх адпаведнікаў. Цяпер гэты слоўнік у Акадэміі навук.**

– Калі сын запытаўся, ці ёсць беларускае слова, адрознае ад рускага і польскага адпаведніка, задумалася, – тлумачыць гісторыю ўзнікнення слоўніка спадарыня Яўгенія. – А потым пачала збіраць такія словы і атрымалася больш за тысячу.

**Аддзел інфармацыі.**

**Некалькі прыкладаў са слоўніка Яўгеніі Чаплінскай:**

бадзяцца – бродить – włóczyć się
развітацца – проститься – pożegnać się
вельмі – очень – bardzo
гурба – сугроб – zaspa
дакор – упрёк – zarzut
завушніца – серьга – kolczyk
імкнуцца – стремиться – dążyć
кемлівы – сообразительный – pojętny
ламачча – хворост – chrust
мастацтва – искусство – sztuka
назіраць – наблюдать – obserwować

КНІГІ

## Купляйце беларускае – і атрымлівайце падарункі

**МАЛАДЗЕЧНА. Кампанія “Будзьма” ладзіць акцыю ў краме “Спадчына”. За першы тыдзень яе правядзення паўдзельнічалі трое маладзечанцаў.**

На асобнай палічцы выстаўлена некалькі беларускамоўных кніг, набыўшы якія вы можаце атрымаць падарунак. Калі гэта адна кніга – атрымаеце набор паштовак “Ты адметны”. Калі дзве – музычны дыск, а за тры – адразу і паштоўкі, і дыск.

На палічцы ёсць кнігі, якія сёлета намінавалі на прэмію Ежы Гедройцы – “Сімъ побѣдиши” Алеся Пашкевіча і “Матылі” Паліны Качатковай.

Шмат варыянтаў кніг з серыі “Беларускі кнігазбор”. Сярод іх зборнікі Алеся Адамовіча, Кастуся Цвіркі, Анатоля Вярцінскага, Цішкі Гартнага і іншыя. Новыя кнігі каштуюць каля ста тысяч рублёў. Тыя, што выйшлі некалькі гадоў таму, – каля 60 тысяч рублёў.

Як заўважылі работнікі крамы, беларускамоўная літаратура мае вялікую патрэбу ў рэкламных акцыях.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Набыўшы адну з беларускамоўных кніг…




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

…вы атрымліваеце падарунак.

ЗАХАПЛЕННІ

# Што б падарыць?

**Скрапбукінг дапаможа!**



Зроблены сваімі рукамі падарунак – лепшы спосаб выказаць сваю пяшчоту, шчырасць і любоў да блізкага чалавека.



Кацярына Гнілазуб.

**МАЛАДЗЕЧНА. Надыходзяць святы, і кожны з нас жадае як мага лепш павіншаваць сваіх родных і блізкіх з дапамогай прыемных падарункаў і цёплых слоў. Не абыходзіцца і без паштовак.**

Шмат хто купляе іх у краме, але куды больш прыемна атрымаць паштоўку, а яшчэ лепш рамку з фотаздымкам блізкага чалавека ці альбом, зроблены сваімі рукамі.

Гэты напрамак творчасці атрымаў назву "скрапбукінг" і прыйшоў да нас з Заходняй Еўропы пасля таго, як там з'явіліся шматлікія штодзённікі і запісныя кніжкі, якія людзі маглі афармляць на свой густ.

У 18 стагоддзі ў Расіі пачалі з'яўляцца рукапісныя альбомы, якія жанчыны з вялікім захапленнем упрыгожвалі ўсім, што было пад рукой. Сёння існуюць нават курсы, на якіх усіх ахвотных вучаць гэтаму віду творчасці.

Мне давялося пагутарыць з **Кацярынай Гнілазуб** з Маладзечна. Кацярына вучыцца на дызайнера адзення і як творчы чалавек мае шмат захапленняў. Сярод іх – скрапбукінг, якім яна займаецца ўжо два гады.

**– Кацярына, чаму вы пачалі займацца скрапбукінгам?**

– Мяне заўсёды цікавілі аўтарскія рэчы, зробленыя сваімі рукамі. Чамусьці больш за ўсё мяне цягнула да работы з паперай.

Яшчэ ў школе я пачала сама рабіць паштоўкі. Зразумела, я была дылетантам, і мне вельмі хацелася больш падрабязна паглыбіцца ў гэты від творчасці.

Прайшло не менш за тры гады, як я даведалася пра курсы скрапбукінгу. І цэлы год спасцігала майстэрства вырабу і афармлення фотаальбомаў, паштовак, запрашальнікаў, рамак для фота, розных арт-аб'ектаў.

**– А дзе вы бераце матэрыялы? Ці шмат яны каштуюць?**

– Некаторыя мы можам знайсці і ў сябе дома – гэта гузікі, тканіна, стужкі, пацеркі, пэндзлік, фарбы...

Але ўсё ж галоўны матэрыял – гэта папера. Існуе бясконцае мноства дызайнаў адмысловай каляровай і ўзорнай паперы. Адмысловая яна таму, што з цягам часу не пастарэе, не пажаўцее, не страціць свой колер.

Такім чынам, фотаальбом можа радаваць не адно пакаленне. Матэрыялы пераважна набываем праз інтэрнэт з іншых краін. Так нашмат танней і больш разнастайныя. Але ўвогуле гэта нятаннае захапленне.

**– Вы робіце гэта для сябе ці на продаж?**

– Я раблю паштоўку ці нешта іншае тады, калі мне гэтага хочацца. А пры шчаслівым супадзенні магу выраб прадаць. Бываюць і заказы. Часта мае сябры і родныя атрымліваюць невялікія сюрпрызы.

**– Як вы лічыце, ці можна скрапбукінгам зарабіць на жыццё?**

– Многія з маіх знаёмых майстроў займаюцца гэтым больш на продаж, чым для сябе, але ўсё адно скрапбукінг не можа быць сродкам асноўнага даходу.

**– Хто вашы кліенты?**

– Пераважна мае знаёмыя і сябры. Так, напрыклад, я зрабіла сваёй сяброўцы ў падарунак фотаальбом на вяселле, а потым яна папрасіла зрабіць альбом і яе сяброўцы.

**– У чым вы бачыце перавагу самаробных паштовак перад пакупнымі?**

– Такая паштоўка напоўніцу дапаможа вам перадаць свае пачуцці адрасату. І ўвогуле, гэта вельмі прыгожа.

Калі ж браць фотаальбом, то тут гаворка ідзе аб перадачы пачуццяў, эмоцый, якія выклікае канкрэтны фотаздымак. Ён дапаможа вам зберагчы атмасферу фота на доўгія гады.

**Таццяна УЛАДЫКА,**
**школа маладога журналіста.**
**Фота Таццяны Уладыкі.**

ДАПАМОГА

## Участковыя дапамаглі адзеннем і абуткам

**МЯДЗЕЛ. У чацвер, 14 лютага, старшы ўчастковы інспектар міліцыі Аляксандр Клямята нёс тры вялікія пакеты. Але гэта былі не пакупкі дадому: рэчы прызначаліся Генадзю Мілюнцу.**

Той вярнуўся з месцаў пазбаўлення волі, перабіваецца выпадковымі заробкамі. Натуральна, мужчына знаходзіцца пад кантролем міліцыі, з ім вядзецца прафілактычная работа. Жыве **Генадзь Мілюнец** каля Мядзела, у вёсцы Шыкавічы, якая знаходзіцца на ўчастку **Аляксандра Клямяты**.

Неяк Генадзь папрасіў участковага, каб міліцыя чымсьці дапамагла – хоць бы адзеннем.

Я і іншыя супрацоўнікі аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі сабралі і перадалі адзенне, абутак – пераважна, зімовыя рэчы, – расказаў Аляксандр. – Мяркую, наш падапечны застаўся задаволены. Можа, такая ўвага да яго паспрыяе вяртанню Генадзя да нармальнага жыцця.

О, мне гэтых рэчаў надоўга хопіць, – адгукнуўся **Генадзь Мілюнец**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Генадзь Мілюнец і старшы ўчастковы інспектар міліцыі Аляксандр Клямята.

АСОБЫ

## Эдуард Ціхі – першы Ганаровы грамадзянін Мядзельскага раёна

**МЯДЗЕЛ. У суботу, 16 лютага, стала вядома, хто стаў першым Ганаровым грамадзянінам Мядзельскага раёна. Гэта Герой Сацыялістычнай Працы з вёскі Камарова Эдуард Ціхі.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Эдуард Ціхі.

Эдуард Вікенцьевіч нарадзіўся ў 1931 годзе на Мядзельшчыне. Званне Героя Сацыялістычнай Працы яму было прысвоенае Указам прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР у 1966 годзе за выкананне сямігадовага плана па ўборцы збожжавых. Эдуард Ціхі 17 сезонаў працаваў на камбайне. Парабіўшы механізатарам, далей працаваў загадчыкам майстэрні, выконваў абавязкі галоўнага інжынера, узначальваў прафкам саўгаса "Канстанцінава".

Дыплом і пасведчанне "Ганаровы грамадзянін Мядзельскага раёна" Эдуард Ціхі атрымаў на традыцыйным злёце перадавікоў галін народнай гаспадаркі Мядзельшчыны. Уручыў іх старшыня Мядзельскага райвыканкама Ілля Шацько.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МЕСЯЦАВЫ КАЛЯНДАР САДАВОДА І АГАРОДНІКА

## Прадуктыўнасць знакаў задыяка

**Месяцавы каляндар садавода і агародніка быў складзены яшчэ ў старажытнасці, шляхам працяглых назіранняў за уплывам Месяца на ўсё жывое, у тым ліку і на садова-агародныя расліны.**



Пры работах у садзе і агародзе важна ўлічваць, у якім знаку задыяка знаходзіцца Месяц, паколькі ўсе знакі дзеляцца на ўрадлівыя, знакі сярэдняй пладавітасці і бясплодныя.

**Урадлівыя знакі задыяка:** Рак, Скарпіён, Рыбы.

**Знакі сярэдняй урадлівасці:** Цялец, Шалі, Стралец, Казярог.

**Бясплодныя знакі задыяка:** Авен, Блізняты, Дзева, Леў, Вадалей.

Ураджай будзе лепшы, калі пры пасевах улічваць фазу Месяца і яе знаходжанне ва ўрадлівым знаку задыяка. Так вы зможаце правільна планаваць свае сельскагаспадарчыя работы.

**Не займайцеся важнымі агароднымі справамі ў сатанінскія дні, бо вялікага плёну вы не дачакаецеся.**

Заўсёды памятайце, што на добрыя вынікі ў агароднай справе і ў садзе ўплываюць не толькі тэрміны правядзення работ, але таксама і агульныя ўмовы вегетацыі раслін. Звяртайце ўвагу на надвор'е.

**Аляксандр КІБЕРАЎ.**

ПАМЯЦЬ

## "Дзе ты, Вася?" – эпілог

**Пад такім загалоўкам 9 сакавіка мінулага года быў апублікаваны мой аповед пра адзінока пражываючага жыхара нашага горада М.С. Смоліка.**

Напрыканцы просьбы была, каб параілі людзі добрыя, як можна старому дапамагчы.

На жаль, ніхто не адгукнуўся. Не сумняваюся, што многія ў думках паспачувалі бедалагу, але на гэтым усё і скончылася.

Памёр Мікалай Севасцьянавіч сёлета 13 студзеня ў Радашкавічах, на сацыяльным ложку, прабыўшы там тыдзень. Зусім здалі ногі, дома не мог перамяшчацца нават на мыліцах. Пахавалі яго 17 студзеня.

Прымі, добры Божа, яго душу пад сваю апеку.

**Леанід РУСАК, Маладзечна.**

ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

# У "Смаргоні" з'явяцца новыя футбалісты

**СМАРГОНЬ. У адрозненне ад многіх іншых прафесійных клубаў, нашы землякі не спяшаліся распачынаць міжсезонныя трэніроўкі.**

Каманда выйшла з адпачынку толькі на гэтым тыдні. Галоўны трэнер ранейшы – **Павел Бацюта**, а вось склад футбалістаў за гэту зіму змяніцца больш чым напалову.

Больш за дзесяць гульцоў развіталіся са "Смаргонню". Сярод іх двое выхаванцаў маладзечанскага футбола – 35-гадовы паўабаронца **Міхаіл Макоўскі** ўжо завяршыў сваю кар'еру, а 23-гадовы нападаючы **Сяргей Корсак** падпісаў кантракт на два гады ў вышэйшай лізе, з наваполацкім "Нафтанам".

Адпаведна вялікім будзе і папаўненне складу. Ужо цяпер можна казаць аб чатырох вядомых у беларускім футболе навічках. Двое з іх нават маюць досвед выступленняў у нацыянальнай зборнай. Паўабаронца **ВітальВаладзянкоў** (1976 года нараджэння) прыйшоў з "Гарадзеі", у свае лепшыя сезоны выступаў за мінскае "Дынама". Нападаючы **Мікалай Рындзюк** (1978) у мінулым годзе ўжо згуляў сем матчаў за смаргонскі клуб, а потым паехаў крыху падзарабіць грошай у чэмпіянаце Узбекістана; свае лепшыя сезоны ён правёў за барысаўскі БАТЭ. Абаронца **Сяргей Кавальчук** (1978) прыйшоў з мазырскай "Славіі", а нападаючы **Сяргей Крот** (1980) – са "Слуцка".

Прыйшлі навіны з рэспубліканскай федэрацыі, што чэмпіянат першай лігі стартуе 20 красавіка, а завяршыцца даволі позна, 23 лістапада. Кіраўніцтвам смаргонскага клуба запланаваныя тры вучэбна-трэніровачныя зборы. Два з іх пройдуць у Беларусі, бліжэйшы – у Стоўбцах з 4-га па 16-га сакавіка. Яшчэ адзін збор, перад стартам чэмпіянату, мяркуецца правесці на тэрыторыі Польшчы.

### Успомнім статыстыку

Смаргонская каманда ў прафесійных лігах правяла ўжо адзінаццаць сезонаў. Былі часы пастаянных прызавых пазіцый у першай лізе, былі "залатыя" часы выступлення ў вышэйшай лізе. Гэта якраз тады, з 2005 года па 2008, тут працаваў галоўным трэнерам **Георг Кандрацьеў**, які цяпер узначальвае зборную краіны.

Пасля вяртання на пэршалігавыя прасторы каманда выступае стабільна, увесь час трымаецца каля дзясяткі мацнейшых. Праўда, бывалі тыдні, калі даводзілася хвалявацца за тое, каб захаваць месца "пад сонцам".

### Навіны іншых клубаў

За мінулую зіму мацнейшыя клубы беларускай першай лігі змянілі як свае планы агульнага развіцця, так і мэты на бліжэйшы час.

Задача па выхадзе ў вышэйшую лігу пакуль пастаўленая толькі перад футбалістамі "Віцебска". Тут прызначаны новы дырэктар клуба замест ранейшага, якога крытыкавалі з усіх бакоў. Тут прызначаны і новы галоўны трэнер.

Змяніліся галоўныя трэнеры ў "Гарадзеі" і сталічным СКВІЧы. У мінскім клубе да таго ж значна паменшыўся бюджэт, яны адмаўляюцца ад сталых футбалістаў, будуць даваяраць моладзі.

Шмат кадравых перамен яшчэ і ў "Лідзе", а гомельскі ДБК наогул спыніў сваё існаванне.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Фота legioner.kulichki.com.

**Дванаццаць гадоў назад Мікалай Рындзюк абараняў колеры нацыянальнай зборнай. Цяпер ён будзе выступаць у першай лізе за футбольны клуб "Смаргонь".**

**У ніжэйпрыведзенай табліцы па кожным чэмпіянаце даецца занятае месца і колькасць згуляных матчаў, а таксама колькасць атрыманых перамог і набытых нічыіх**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 2002 год | першая ліга | 14 месца | 30 | 8 | 5 |
| 2003 год | першая ліга | 3 месца | 30 | 17 | 7 |
| 2004 год | першая ліга | 3 месца | 30 | 14 | 11 |
| 2005 год | першая ліга | 3 месца | 30 | 15 | 9 |
| 2006 год | першая ліга | 2 месца | 26 | 16 | 7 |
| 2007 год | вышэйшая ліга | 10 месца | 26 | 6 | 8 |
| 2008 год | вышэйшая ліга | 8 месца | 30 | 10 | 9 |
| 2009 год | вышэйшая ліга | 14 месца | 26 | 2 | 9 |
| 2010 год | першая ліга | 12 месца | 30 | 8 | 8 |
| 2011 год | першая ліга | 11 месца | 30 | 9 | 7 |
| 2012 год | першая ліга | 10 месца | 28 | 7 | 10 |

МАДЭЛЯВАННЕ

## Разведка паветраным боем

**МАЛАДЗЕЧНА. Акрыты рэгіянальны конкурс стэндавых мадэляў-копій "Стэнд-2013", прысвечаны 75-годдзю ўтварэння Мінскай вобласці, адбыўся ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" 16-17 лютага.**

Восем камандаў з Віцебска, Гомеля, Кобрына, Мінска і Маладзечна падрыхтавалі да конкурсу 142 мадэлі: бронетэхніку, аўтамабілі, самалёты, флот. Найбольшую цікавасць у гледачоў выклікалі дыярамы – аб'ёмныя настольныя макеты, якія перадаюць гістарычныя падзеі і ваенныя эпізоды. Гледачы нібы вярнуліся назад у гісторыю і сталі сведкамі ваенных аперацый "Бліцкрыг" і "Барбароса", Сталінградскай бітвы, паветранага бою, разведкі і, нарэшце, канца вайны ў Берліне 1945 года.

Пераможцай спаборніцтваў ужо не першы год з'яўляецца каманда нашага горада "Узлёт" пад кіраўніцтвам **Віталя Шахно**. А яго сын Арцём стаў рэкардсменам па колькасці заваяваных дыпламоў: чатыры – першай ступені і два – трэцяй.

Працэс мадэлявання – працаёмкі, карпатлівы і дарагі, таму на стварэнне адной копіі патрабуецца некалькі месяцаў. Бо прыходзіцца ўзнаўляць усё ў дакладнасці да апошняй дэталі, аж да пяску на гусеніцах або гразі на колах. Аднак гэта не пужае сапраўдных прыхільнікаў тэхнічнай творчасці. Сярод наведнікаў выставы было нямала тых, хто натхніўся ўбачаным і захацеў сам стварыць нешта падобнае.

Досвед маладзечанскіх мадэлістаў вырашылі пераняць гамяльчане і правесці ў наступным годзе падобнае мерапрыемства, прысвечанае Дню Перамогі.

**Дар'я ЦАУНЯ, школа журналістыкі "Маладзік".**



Фота Міхаіла ХРЭШЧЫКА.

**Аляксей Барысаў разглядае мадэлі самалётаў.**

АНОНС

## Спартыўныя падзеі вясны

**МАЛАДЗЕЧНА. Пералік найбольш цікавых спаборніцтваў і мерапрыемстваў, якія пройдуць у Маладзечне на працягу вясенніх месяцаў.**

### Сакавік

**Грэка-рымская барацьба.**

Алімпійскія дні моладзі Мінскай вобласці. Юнакі 1996-97 г.н.

Адкрыты турнір на прызы Барыса Радкевіча, чэмпіёна Еўропы. Мужчыны.

**Лёгкая атлетыка.**

Першынство Мінскай вобласці. Юнакі і дзяўчаты 1999-2003 г.н.

**Фехтаванне.**

Першынство Рэспублікі Беларусь "Алімпійскія надзеі" (шабля). Юнакі і дзяўчаты розных узростаў.

**Хакей.**

Рэспубліканскія спаборніцтвы "Залатая шайба". Юнакі 2000-2001 г.н.

### Красавік

**Барацьба ўшу.**

Першынство Мінскай вобласці. Юніёры і юніёркі.

Чэмпіянат Мінскай вобласці. Мужчыны і жанчыны.

**Гарадошны спорт.**

Адкрыты турнір на прызы Мінскага абласнога ўпраўлення па ФКСіТ памяці ахвяраў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Другі этап Кубка Еўропы. Мужчыны.

**Лёгкая атлетыка.**

Кубак Рэспублікі Беларусь па кросе. Мужчыны і жанчыны.

**Мнагаборствa.**

Абласная спартакіяда па летнім мнагаборстве комплексу "Абаронца Айчыны". Юнакі дапрызыўнага і прызыўнога ўзросту.

### Май

**Лёгкая атлетыка.**

Прабег памяці лётчыка Мікалая Гастэлы ў рамках адкрытага чэмпіянату Мінскай вобласці па марафоне.

**Прафесійнае свята.**

Дзень работнікаў фізічнай культуры і спорту.

**Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

НАВІНЫ

### Новыя ўзнагароды з рэспубліканскіх спаборніцтваў

**МАЛАДЗЕЧНА.** На мінулым тыдні, 15-17 лютага, у пасёлку Чысць прайшоў рэспубліканскі турнір па грэка-рымскай барацьбе сярод хлопцаў 1998-2000 гадоў нараджэння.

Традыцыйныя спаборніцтвы прысвячаліся памяці Сяргея Новікава і Сяргея Сафронава. На Маладзечаншчыну з'ехаліся каманды з усёй краіны – усяго турнір сабраў 275 удзельнікаў.

Прызавымі месцамі адзначыліся і маладзечанцы. Першае месца ў сваёй вагавай катэгорыі заняў **Арцём Шульвінскі**, другое – **Ілля Бічун**.

На трэцім месцы ў розных катэгорыях адзначыліся **Арцём Валасковіч**, **Ягор Базанаў** і **Дзяніс Вянглоўскі**.

### У валейболе перамаглі выратавальнікі

**ВІЛЕЙКА.** З 15 па 16 лютага праходзілі спаборніцтвы па валейболе сярод працоўных калектываў у рамках круглагадовай спартакіяды.

Прайшлі яны ў спартыўных залах райаддзела ўнутраных спраў і фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс". Прынялі ў іх удзел сем камандаў, паведаміў інструктар-метадыст РФАЦ «Імпульс» **Аляксандр Вайда**.

Перамагла ў спаборніцтвах каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях, на другім месцы – прадстаўнікі аддзела адукацыі, на трэцім – міні-ЦЭЦ.

### Маладзечанцы выйшлі ў фінал

**МЯДЗЕЛ.** На гэтых выхадных у фізкультурна-аздараўленчым цэнтры прайшлі занальныя спаборніцтвы па міні-футболе на першынство Мінскай вобласці.

Перамагла ў спаборніцтвах каманда Маладзечанскага раёна. На другім месцы – гульцы Мядзельскага раёна, на трэцім – Вілейскага. Такім чынам, прадстаўнікі Маладзечаншчыны здабылі пуцёўку ў фінал абласнога першынства.

### У Мядзеле сустракаліся лідары

**МЯДЗЕЛ.** Вызначальны матч прайшоў у чэмпіянаце раёна па міні-футболе.

У сераду, 13 лютага, сустракаліся лідары – каманды НДЦ "Зубраня" і аддзела адукацыі. Абедзве дружыны ў дзевяці турах атрымлівалі толькі перамогі.

– Матч прайшоў ва ўпартай барацьбе, і толькі на апошніх хвілінах каманда "Зубраня" вырвала перамогу, – паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**. – Лік сустрэчы – 6:5.

Астатнія матчы прынеслі такія вынікі: Будслаўскі сельсавет - Сваткаўскі сельсавет – 5:2, райаддзел па надзвычайных сітуацыях - райваенкамат – 8:2.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Камент-эксперт rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Вяз, з вышыні якога бачныя адразу тры гарады - Маладзечна, Вілейку і Смаргонь**

Змест артыкула сведчыць пра багатую спадчыну, якую маем. Прыглядзеўшыся пільна, можна заўважыць сляды гісторыі ў сённяшнім дні. І нават знайсці жывых сведкаў мінулых часоў. ***І. Z.***

**Няўжо футбола не будзе?**

А адкуль спонсары з'явяцца, калі сядзець рукі склаўшы і нічога не рабіць??? ***Эха.***

**Інвестар ратуе панскі бровар у Стайках**

Калі Аксане Волкавай усё ж такі ўдасца дасягнуць сваёй мэты, то за гэта ёй не толькі званне героя Беларусі трэба прысвойваць, але і помнік пры жыцці ставіць! Абыякавасць і бюракратызм нашага чынавенства дасягнулі ўжо такой вышыні, што вышэй няма куды. Каб вырашыць якое-небудзь нават просценькае жыццёвае пытанне, чалавеку трэба прайсці шмат дзвярэй бюракратызму, каб патрапіць да таго запаветнага "адзінага акна", якое існуе ў большасці сваёй толькі на паперы. А тут неабходна здзейсніць такі праект!!! Але як бы там ні было, шчыра жадаю поспехаў арганізатарам і выканаўцам у рэстаўрацыі панскага бровара ў Стайках. ***Алесь Раткевіч.***

### РЭПЕРТУАР кінатэатра "Радзіма"

**23 ЛЮТАГА- 2 САКАВІКА**

**ВЯЛІКАЯ ЗАЛА**

Камедыйныя прыгоды. **"Салавей-разбойнік"** (Расія, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам ад 16 гадоў)
**22 лютага – у 17.30, 21.30**
**23, 25 лютага – у 19.00**
**26 лютага – у 21.00**
**27 і 28 лютага – у 19.30**
Кошт білета – 20 000 рублёў

Крымінальная камедыя **"Рэальныя хлопцы"** (ЗША, 2013, фільм дазволены для прагляду гледачам ад 16 гадоў)
**22 лютага – у 19.30**
**23 лютага – у 14.30, 21.00**
**24, 26 лютага – у 19.00**
**27 лютага – 21.30**
**28 лютага – у 17.30, 21.30**
Кошт білета – 22 000 рублёў

Драма **"У тумане"** (2D, Беларусь, Расія, Германія, Нідэрланды, 2012, дзецям да 14 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
**23, 24 лютага і 2 сакавіка – у 16.30**
**27 лютага – у 17.00**
Кошт білета – 22 000 рублёў

Фільм-катастрофа **"Метро"** (Расія, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам ад 16 гадоў)
**1 сакавіка – у 16.30, 19.00, 21.30**
**2 сакавіка – у 14.00, 19.00, 21.30**

**ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ**

Драма **"У тумане"**
**22, 25-28 лютага, 1 і 2 сакавіка – у 18.00, 20.30**
**23, 24 лютага – у 15.30, 18.00, 20.30**
Кошт білета – 25 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды. **"Болт і Бліп спяшаюцца на дапамогу"** (Канада, Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
**22, 27-28 лютага – у 16.30**
**23 і 24 лютага – у 12.30, 14.00**
Кошт білета – 10 000 рублёў

Тэлефон для даведак:
**8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

■ **КІНО**

# У новай зале кінатэатра – арт-хаўс

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 22 лютага ў кінатэатры "Радзіма" запрацуе зала павышанай камфортнасці. Першы фільм, які там пакажуць, – "У тумане" беларускага рэжысёра Сяргея Лазніцы па аднайменнай аповесці Васіля Быкава.**



Фота filmofilia.com.

**Кадр з фільма "У тумане" Сяргея Лазніцы, які пакажуць у новай зале.**

У зале 36 мяккіх камфортных крэслаў. Колькі будзе каштаваць тут прагляд фільма, дакладна пакуль невядома. Хутчэй за ўсё ваш кошт будзе на ўзроўні вялікай залы. Напрыклад, на фільм "У тумане" білет у залу павышанай камфортнасці – 25 тысяч рублёў. Гэта на тры тысячы больш, чым у звычайную.

Ідэя стварыць малую залу для людзей з асаблівым кінагустам нарадзілася яшчэ два гады таму ў маладзечанскім філіяле "Мінаблкінавідэапракату".

– Цяпер у пракаце пераважна камерцыйнае кіно, якое карыстаецца найбольшым попытам у нашых гледачоў, – разважае дырэктар кінатэатра "Радзіма" **Ганна Баравец**. – Але ж ёсць людзі, якія жадаюць большага. Яны хочуць не толькі бачыць сюжэт, але і чытаць паміж радкоў. Такое кіно называюць арт-хаўс. Само паняцце арт-хаўс аб'ядноўвае не толькі жанр кіно, а адносіны да кінематографа як да спосабу спасціжэння жыцця. Гэта аўтарскі погляд на жыццё, які заслугоўвае разумення. Яшчэ першапачаткова было запланавана, што рэпертуар фільмаў у залах будзе адрознівацца.

Першы фільм, які пакажуць у кінатэатры ў новай зале, – "У тумане" па аднайменнай аповесці Васіля Быкава. Рэжысёр – 48-гадовы беларус Сяргей Лазніца. Праўда, ён эміграваў у Германію больш за дзесяць гадоў таму.

– Некаторыя адносяць гэтае кіно менавіта да катэгорыі "не для ўсіх", бо ў ім галоўны герой робіць складаны маральны выбар, – працягвае спадарыня Ганна. – Я яго спецыяльна яшчэ не глядзела і чакаю як свята.

Дарэчы, фільм кінатэатр атрымаў у двух фарматах, таму ён будзе паказвацца і ў вялікай зале.

– Асноўная публіка, якая да нас прыходзіць, – моладзь, – кажа спадарыня Ганна. – Спадзяёмся, што гэты фільм будзе цікавы і ім. Часам людзі хочуць паглядзець больш фільмаў, чым паказвае кінатэатр. Але іх выбар не заўсёды залежыць ад самога кінатэатра. Цяпер якраз адчыняецца новая зала, і рэпертуар пашырыцца. Наша задача – зрабіць так, каб людзі, якія да нас прыйшлі, засталіся задаволеныя абслугоўваннем, якасцю фільмаў і ім было ў нас прыемна, камфортна і захацелася прыйсці яшчэ раз.

**Настасся РОЎДА.**

### Найбольш папулярныя фільмы мінулага года ў Маладзечне

1. **"Хобіт. Нечаканая прыгода"** 3D. (За тры тыдні яго паглядзела больш за тры тысячы чалавек).
2. **"Тры волаты на далёкіх берагах"** 3D. (Гэты дзіцячы мультыплікацыйны фільм за два тыдні набраў амаль тры тысячы праглядаў).
3. **"Жыццё Пі"**. (Адзін тыдзень і дзве тысячы праглядаў).

### Забраніраваць месца ў кінатэатры можна і з дому

Трэба зайсці на сайт megamag.by і зарэгістравацца. Уверсе справа будзе надпіс "Рэгістрацыя". Націснуўшы на яго, з'явіцца анкета, якую трэба запоўніць. Так аўтаматычна вы становіцеся карыстальнікам сеткі "Мегамаг". Вам пры першай аплаце за браніраваныя на гэтым рэсурсе білеты выдадуць створаную для вас картку. Па ёй вы потым увесь час зможаце разлічвацца.

Браніраванне цалкам бясплатнае. Толькі за забраніраваныя месцы трэба заплаціць не пазней, чым за 30-40 хвілін да пачатку сеанса. Інакш бронь аўтаматычна здымаецца.

■ **ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ**

### Што павінны ўмець сапраўдны мужчына?

**29%** Ляжаць на канапе з півам
**23%** Прымаць рашэнні
**25%** Зарабляць грошы
**06%** Тое, што і жанчына
**05%** Забіваць цвікі
**02%** Хаця б не раскідваць па хаце рэчы
**01%** Бачыць у сабе жаночую частку
**05%** Змагацца за каханне

Усяго галасоў 72

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**24 нядзеля 12.00** Е. Чарняк. **"ВАСІЛІСА ПРЫГАЖУНЯ"** (чарадзейная казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**22 пятніца 11.30 "Баланчык"** (феерычная клаўнада) *Арцём Белазёраў*

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**24 нядзеля 17.00** ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*

**26 аўторак 19.00 "Старая Зайчыха"** (меладрама) ідзе на рускай мове *Мікалай Каляда*

**28 чацвер 19.00** **ПРЭМ'ЕРА. "Карона з кахання"** (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы) *Анатоль Дзялендзік*

Тэатра мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,* тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by.

■ **СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 3 | 1 | | | | | | |
| | | | 7 | 8 | 1 | 2 | | |
| | | | 4 | | | | | 7 |
| | 7 | | | 4 | | | | 2 |
| 1 | | 6 | | | | 3 | | 4 |
| 8 | | | | 1 | | | 5 | |
| 2 | | | | | 5 | | | |
| | | 3 | 6 | 7 | 8 | | | |
| | | | | | | 9 | 7 | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



■ **ГАРАСКОП (22-27 ЛЮТАГА)**

**Авен.** Вам трэба звярнуць увагу на сваё здароўе, асабліва ўстрымацца ад спажывання алкаголю. А яшчэ будзьце акуратныя з лекавымі прэпаратамі.

**Цялец.** Адносіны з блізкімі будуць развівацца вельмі гарманічна, калі вы пакажаце, што гатовыя ісці на ўступкі і ўлічыць інтарэсы ўсіх.

**Блізняты.** Сачыце за тым, каб ежа на вашым стале заўсёды была свежая, каб былі агароднína і фрукты. Халодная і цяжкая яда можа выклікаць недамаганні.

**Рак.** Вы можаце пазнаёміцца з чалавекам, які многаму вас навучыць, стане вашым духоўным настаўнікам.

**Леў.** Вы наўрад ці зможаце кіраваць сваім жыццём. Ваш звычайны распарадак парушыць ці надвор'е, ці іншыя знешнія фактары. Вы не ў стане пераадолець перашкоды ці ўзяць іх пад кантроль. Паспрабуйце прыстасавацца да нязвыклага парадку рэчаў.

**Дзева.** Вас чакаюць сустрэчы, да якіх вы не гатовыя. Тыя сферы, якія кантралявалі ці якімі маглі кіраваць у мінулым, будуць страчаныя ў віхуры перамен.

**Шалі.** Усё мяняецца, і вы таксама. Не чапляйцеся за мінулае, адпусціце. Новае знаёмства дазволіць паглядзець інакш на жыццё і свет вакол вас.

**Скарпіён.** Не прыцягвайце да сябе залішняй увагі. Няхай вас не пахваляць за атрыманую перамогу – не бяда. Затое вам і зайздросціць ніхто не будзе, бо любое ўзаемадзеянне з недружалюбна настроеным чалавекам нясе ў сабе непрыемнасці.

**Стралец.** Вы будзеце літаральна свяціцца энергіяй і шчасцем, усё будзе атрымлівацца, любыя пытанні вырашацца. Толькі асцерагайцеся ўсялякага роду падманшчыкаў.

**Казярог.** Не драматызуйце падзей. Паглыбленасць у свае праблемы, якія ўва многім надуманыя, не дазваляе вам адэкватна рэагаваць на тое, што адбываецца.

**Вадалей.** Пастарайцеся кантраляваць усе фінансавыя пытанні і пазбягаць рассеянасці, забыўлівасці. Трымайце наяўныя грошы ў надзейным месцы.

**Рыбы.** Не выключана, што вам захочацца ўзяць у рукі пэндзлік і паспрабаваць што-небудзь намаляваць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155



# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -7 | | -4 | | -8 | | -8 | |
| | -4 | | -3 | | -4 | | -4 | |
| | 746 | ↙ 4 | 749 | ← 5 | 752 | ↖ 5 | 755 | ← 4 |
| Вільня | -6 | | -6 | | -2 | | -5 | |
| | -5 | | -2 | | 0 | | -2 | |
| | 748 | ↙ 3 | 750 | ← 5 | 752 | ← 5 | 753 | ← 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Цiск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.13
Захад 18.38
Даўжыня дня 10.25

Усход 16.16
Захад 6.41
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- 24 лютага. "Прыйшоў Прохар ды Улас – скора вясна ў нас". Ласі скідаюць рогі.
- У каталікоў Сухі дзень, Мацей. "На Мацея зіма пацее".
- Пытаецца люты, ці добра абуты.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Мы спыталіся ў сямікласнікаў і васьмікласнікаў, што яны ведаюць пра Беларусь і родную мову. Якія ведаюць яны беларускія казкі? Ці лічаць беларускую мову роднай? Адказы падлеткаў чытайце ў наступную пятніцу.**



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Ігара МАРОЗА.

**Вілейскае таксі ўрэзалася ў слуп на маладзечанскім пуцеправодзе. Здарэнне адбылося каля 10 гадзін 19 лютага. Аўтамабіль "Аўдзі–80" ехаў з боку Парашкоў на Вялікі Гасцінец. 45-гадовы кіроўца рухаўся па крайняй правай паласе. Як распавядае дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі Сяргей Бартош, яму падалося, што машыну падразаюць. Таксіст узяў правей і наехаў на бетонную агароджу, а пасля ўрэзаўся ў слуп. Таксоўку завёз вілейскі эвакуатар у свой горад. Таксіст не пацярпеў.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якім павінны быць сапраўдны мужчына?

**Наталля Батракова, пісьменніца:**



– У мяне вельмі пяшчотныя адносіны да мужчын. Яны бяруць на сябе адказнасць абсалютна за ўсё: за справу, за сям'ю, за жанчыну і дзяцей. І каб мужчына стаў такім, якім яго хоча бачыць жанчына, яна павінна яму ў гэтым дапамагаць.

**Любоў Кавалеўская, настаўніца:**



– Разумным, прыстойным. Каб да жанчыны адносіўся так, як належыць сапраўднаму мужчыну: паважаў, дапамагаў.

**Таццяна Закрэўская, загадчыца аддзела абслугоўвання бібліятэкі:**



– Добрым, разумным, сумленным, адказным, спагадлівым і каб кахаў. Каб жыў па хрысціянскіх запаведзях.

**Ніна Падцялежнікава, пенсіянерка:**



– Сапраўдны мужчына павінны быць сумленным, справядлівым, верным і шчодрым. Ён павінны паважаць усіх і любіць ўсё: і прыроду, і жонку, і дзяцей, і ўсіх людзей на Зямлі.

**Іна Ляшчэвіч, канцэртмайстар:**



– Мужчына павінны быць моцны духам, смелы і сумленны. І ён павінны вельмі моцна кахаць сваю жонку, любіць дзяцей. Ну і, канешне ж, быць лідарам. Але, у першую чаргу, быць адданым сваім блізкім.

**Таццяна Котава, пенсіянерка:**



– Сумленным, мужным, прыгожым, здаровым і разумным.

**Алена Бурская, тэхработніца:**



– Мужным, добрым і з пачуццём гумару. Ён павінны клапаціцца пра сваю сям'ю.

**Настасся РОЎДА,**
**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6600 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 8 (930) 22.02.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 135. Падпісана ў друк у 10.00 21.02.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.